Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 11 (4811) 20 сакавіка 2015 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народнага артыста РСФСР Сяргея Юрскага. «На беларускай зямлі добра ведаюць і цэняць фільмы і спектаклі з вашым удзелам. Вашы работы па праве лічацца неад'емнай часткай скарбніцы рускай тэатральнай школы», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народную артыстку Беларусі Ірыну Шыкунову з юбілеем. «Музычная грамадскасць краіны ведае вас як выдатную спявачку, адну з яркіх прадстаўніц беларускага вакальнага мастацтва. Сёння вы плённа працуеце ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, паспяхова развіваеце лепшыя традыцыі беларускага і сусветнага вакальнага мастацтва, перадаяце свой багаты досвед і веды маладому пакаленню спевакоў», — адзначана ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі выказаў спачуванні блізкім і сябрам Валянціна Распуціна ў сувязі са смерцю гэтага вялікага пісьменніка. «Пайшоў з жыцця выдатны чалавек і мысляр, імя якога непарыўна звязана з лепшымі традыцыямі савецкай і сучаснай рускай літаратуры. Яго цудоўныя творы — «Развітанне з Мацёрай», «Урокі французскай», «Апошні тэрмін», «Жыві і помні» ды многія іншыя — ведаюць і любяць ва ўсім свеце», — гаворыцца ў спачуванні.

✔ Беларускія артысты прадставяць французскай публіцы перліны класічнага рэпертуару: балеты «Лебядзінае возера» і «Спячая прыгажуня» П. І. Чайкоўскага. Спектаклі адбудуцца ў найбуйнейшых гарадах Францыі і Бельгіі, а ў Парыжы — на сцэне Палаца кангрэсаў.

✔ Дацэнты кафедры прыкладной лінгвістыкі філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Наталля Скварцова і Наталля Касюк сталі лаўрэатамі I Сусветнага конкурсу «Мерыдыяны рускай мовы». Іх праект «Мова. Літаратура. Культура» прызнаны адным з лепшых сярод іншых конкурсных работ, накіраваных на развіццё і папулярызацыю рускай мовы і літаратуры.

✔ Айчынная паэтэса Людміла Клачко вылучана на «Рускую прэмію» ў намінацыі «Паэзія» за зборнік «Без назвы». Усяго ў лонг-ліст конкурсу ўвайшлі творы 42 рускамоўных творцаў з 19 краін. Шорт-ліст намінантаў будзе аб'яўлены 31 сакавіка, узнагароды пераможцам плануецца ўручыць 21 красавіка.

✔ Першы міжнародны конкурс піяністаў, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Святаслава Рыхтэра, прайшоў у Брэсцкім дзяржаўным музычным каледжы імя Рыгора Шырмы. У музычных спаборніцтвах, арганізаваных грамадскім аб'яднаннем «Брэсцкае абласное музычнае таварыства», бралі ўдзел 18 маладых піяністаў з Беларусі, Мексікі і Кітая.

✔ Брэсцкі абласны краязнаўчы музей падчас акцыі «Брэст — культурная сталіца» правядзе цыкл трохдзённых выставак аднаго прадмета «Унікальны экспанат». Будуць прэзентавацца музейныя прадметы, якія захоўваюцца ў фондах і раней ніколі не выстаўляліся, але маюць гістарычную, мастацкую і мемарыяльную каштоўнасць.



# Марцін Кухта: вядомы і невядомы

**Вярнуцца ў старую Вільню, паглядзець на беларускія кнігі пачатку XX стагоддзя, даведацца больш пра асобу, бадай, самага знакамітага і загадкавага выдаўца таго часу можна на выстаўцы «З друкарні пана Марціна Кухты». Экспазіцыя, прысвечаная 140-годдзю з дня нараджэння друкара, не так даўно распачала працу ў Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.**


Наведвальнікі Музея кнігі знаёмяцца з экспазіцыяй.

Сёння спецыялістам вядома больш як 60 выданняў на беларускай мове, якія надрукаваў літовец Марцін Кухта ў Вільні ў 1906 — 1915 гг. Яго выдавецтва праіснавала менш як дзесяцігоддзе, але, безумоўна, паспрыяла фарміраванню нацыянальнай свядомасці і развіццю кніжнай культуры беларусаў. З Кухтам супрацоўнічалі выдавецкія суполкі «Наша Ніва», «Наша Хата», «Палачанін», «Беларускае выдавецкае таварыства», ён апекаваўся выпускам першых кніг пачынальнікаў беларускай літаратуры. Адметна, што на выстаўцы ў галоўнай кніжніцы краіны можна пабачыць 46 выданняў, што выйшлі з-пад друкарскага варштата Кухты ў пачатку XX ст.


Фота Кастуся Дробава

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Эвалдас Ігнатавічус падчас адкрыцця выстаўкі «З друкарні пана Марціна Кухты».

Намеснік дырэктара па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці НББ Алесь Суша падчас адкрыцця экспазіцыі зазначыў:

— Мы сёння прысутнічаем на незвычайнай імпрэзе. Найперш таму, што адкрыццё выстаўкі праходзіць у самім Музеі кнігі. Гэта пляцоўка, дзе звычайна пануюць цішыня, спакой, дзе кнігі не вельмі часта, бясшумна і ціха, змяняюцца. Другая прычына — наша спроба ўвесці ў больш шырокі навуковы і культурны ўжытак звесткі пра асобу Марціна Кухты, вельмі добра вядомую кожнаму беларусу яшчэ са школьных гадоў, са знакамітага верша Максіма Багдановіча. Сёння кніга М. Багдановіча «Вянок», што выйшла ў друкарні М. Кухты, успрымаецца як адзін з самых каштоўных кніжных і літаратурных помнікаў нашага народа.

Чытайце на стар. 9 ▶

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Над чым працуюць літаратары?

Пленум Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі адбыўся ў сталічным Доме літаратара. Пасяджэнне атрымалася надзвычай інфарматыўным: пытанняў на парадку дня было шмат.

Першае датычыла вынікаў працы айчынных пісьменнікаў на XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы. Паводле старшыні СПБ Мікалая Чаргінца, у форуме змаглі ўзяць удзел не ўсе рэгіянальныя аддзяленні рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі, аднак прайшло шмат прэзентацый кніг, творчых сустрэч, у тым ліку з замежнымі дэлегацыямі. Пісьменнікі, што спрычыніліся да сёлетняй выстаўкі найбольш актыўна, будуць заахвочаны матэрыяльна.

Шэрагі СПБ папоўнілі 8 літаратараў: Пётр Буганаў, Алена Мальчэўская, Вацлаў Хадасевіч, Алёна Папко, Уладзімір Тулінаў, Анатоль Драздоў, Наталля Ігнаценка і празаік з Малдовы Юрый Іваноў. У сувязі са зменай кіраўніцтва Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду са складу Прэзідыума СПБ выведзены былы старшыня Славамір Антановіч. Выключаны з СПБ Ірына Шатыронак і Міхась Южык.

Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў вылучаны на Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь, а старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Уладзімір Дуктаў і старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Анатоль Крэйдзіч — на атрыманне медаля Францыска Скарыны. Акрамя таго, зацверджаны склад журы рэспубліканскага літаратурнага конкурсу, прысвечанага 70-годдзю Вялікай Перамогі.

Падчас пасяджэння было прынята рашэнне аднавіць савет СПБ па маральнасці ў складзе Віктара Праўдзіна (старшыня), Івана Саверчанкі (намеснік старшыні), Юліі Зарэцкай, Ніны Чайкі і Уладзіміра Саламахі, а таксама стварыць арганізацыйную групу па падрыхтоўцы і правядзенні Дня беларускага пісьменства ў г. Шчучыне і савет па падрыхтоўцы дайджэстаў СПБ, куды ўвойдуць найбольш яркія і значныя кнігі сябroў пісьменніцкай арганізацыі. Таксама былі абмеркаваныя пытанні выплаты членскіх узносаў, у тым ліку замежнымі членамі СПБ, выкарыстання спонсарскай дапамогі і вылучэння стыпендый маладым літаратарам ва ўзросце да 30 гадоў.

**Арына КРАЙКО**

# Скарбы з Усходу: зусім блізка!

Упершыню Нацыянальны мастацкі музей Беларусі прадстаўляе выстаўку традыцыйнай культуры і народных промыслаў «Падарожжа па Палесціне», арганізаваную Пасольствам Дзяржавы Палесціна ў Рэспубліцы Беларусь. Экспазіцыя, якая адкрылася 12 сакавіка, уключае больш за шэсцьдзясят унікальных экспанатаў. Сярод іх — вырабы, што адлюстроўваюць перапляценне мусульманскіх і хрысціянскіх традыцый, нацыянальныя жаночыя і мужчынскія касцюмы, здымкі жыхароў і горных пейзажаў краіны.

Палесціна ганарыцца керамічнымі шэдэўрамі, выкананымі ў самых розных стылях, — каларытнымі кубкамі, каралеўскай расфарбоўкі спodкамі і збанкамі. Таму нядзіўна, што асноўную частку выстаўкі склалі менавіта яны. Цікава, што сярод рамесных школ і напрамкаў вылучаецца Іерусалімская кераміка, месца нараджэння якой — горад Хэўрон. Яе характэрна — у складанасці формаў: загадкавыя і сімвалічныя перапляценні сцяблін і кветак, жывёл і птушак.

Аздабленнем экспазіцыі стала і рознакаляровая палесцінская вышыўка тонкай работы з выразным малюнкам. Майстрыхі з Палесціны ўзнаўляюць узоры продкаў, перадаючы іх з пакалення ў пакаленне. У кожным селішчы краіны — непаўторны арнамент.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Дзяржавы Палесціна ў Рэспубліцы Беларусь Халед Арыкат падкрэсліў, што «творы самабытнай і багатай творчасці палесцінцаў, прадстаўленыя на выстаўцы, адлюстроўваюць лад жыцця народа, яго светапогляд і гісторыю».

Выстаўка «Падарожжа па Палесціне» прымеркавана да Дня палесцінскай культуры, што святкуецца 13 сакавіка і супадае з днём нараджэння вядомага нацыянальнага паэта Махмуда Дарвіша, які сваёй творчасцю адкрыў Палесціну ўсяму свету. Экспазіцыя працягнецца да 12 красавіка, але на гэтым «падарожжа» на Блізкі Усход не скончыцца: беларусаў абяцаюць пазнаёміць з кінематографам, выяўленчым і харэаграфічным мастацтвам Палесціны.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Вялікі Шоўкавы шлях. Беларускія крокі

9 — 11 красавіка 2015 года ў Алмаце пройдзе VIII Міжнародны кніжны і паліграфічны кірмаш «Па Вялікім Шоўкавым шляху».

Па традыцыі ўдзел у казахстанскім свяце кнігі прымуць і беларускія кнігавыдаўцы. Прадстаўнічая беларуская дэлегацыя прэзентуе навінкі такіх выдавецтваў, як «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», «Мастацкая літаратура», «Беларуская навука», Выдавецкі дом «Звязда» ды інш.

— У нас з Казахстанам і казахстанскімі пісьменнікамі ды выдаўцамі добрыя сувязі, — дзеліцца сваімі меркаваннямі намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Алесь Бадак. — Толькі за апошнія гады мы выдалі ў перакладзе на беларускую мову кнігу паэзіі Абая «Стэпавы прастор», дзве кнігі казахстанскага літаратуразнаўца, перакладчыка і пісьменніка Немата Келімбетава «Не хачу губляць надзею» і «Лісты да сына», а таксама зборнік «Не ведаючы межаў» (у межах праекта «Сугучча сэрцаў»), дзе пад адной вокладкай сабраныя творы казахстанскіх і беларускіх пісьменнікаў на рускай мове.

Са сваімі новымі творамі пазнаёмяць удзельнікаў «Вялікага Шоўкавага шляху» казахстанскія пісьменнікі Мухтар Шаханаў, Алжас Сулейменаў, Ралан Сейсенбаеў ды інш. На кніжны кірмаш у Алмату завітаюць выдаўцы і пісьменнікі з Расіі, Турцыі, Украіны, Кітая, Ірана, Таджыкістана і многіх іншых краін.

**Сяргей ШЫЧКО**



# Пра навуку і творчасць

Святлана Ананьева — член Саюза пісьменнікаў Казахстана, загадчык аддзела аналітыкі і знешніх літаратурных сувязей Інстытута літаратуры і мастацтва імя Мухтара Аўэзава НАН Рэспублікі Казахстан, кандыдат філалагічных навук, узнагароджана медалём. Летась, падчас святкавання Дня беларускага пісьменства, узнагароджана і медалём СПБ «За вялікі ўклад у літаратуру». Пра сучасны літаратурны працэс Казахстана Святлана Віктараўна распавяла карэспандэнту «ЛіМа».

— Інстытут літаратуры і мастацтва імя Мухтара Аўэзава падтрымлівае цудоўныя стасункі з Выдавецкім домам «Звязда» і яго дырэктарам Алесем Карлюкевічам. У 2011 годзе ў рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і Мастацтва» пабачыла свет кніга «Абай. Стэпавы прастор» — першае беларускамоўнае выданне вершаў класіка казахскай паэзіі Абая Кунанбаева, з дня нараджэння якога сёлета спаўняецца 170 гадоў (аўтар перакладу — паэт Мікола Мятліцкі. — **Я. Я.**). Акрамя таго, з бягучага года ў нас пачынаюцца новыя праекты, адзін з якіх называецца «Сусветная замежная літаратура пачатку XXI стагоддзя». Грант на гэтае маштабнае даследаванне выдзелены Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Казахстан, і праз тры гады павінна выйсці навуковая манаграфія, прысвечаная асноўным тэндэнцыям і кірункам развіцця нацыянальных літаратур свету. У ёй будуць асветлены ўсе жанры: проза, паэзія, публіцыстыка, літаратурная крытыка, мастацкі пераклад.

Напярэдадні наш інстытут выдаў дзве калектыўныя манаграфіі: «Нарысы па замежнай літаратуры XX стагоддзя» і «Найноўшая замежная літаратура». У новай манаграфіі хацелася б пабачыць главы пра сучасную беларускую літаратуру. Пра сербскую пагадзіўся напісаць прафесар Белдзяржуніверсітэта, доктар філалагічных навук Іван Чарота. Зусім нядаўна Інстытут літаратуры і мастацтва выпусціў і манаграфію «Літаратура народа Казахстана на сучасным этапе». Такім чынам у Казахстане мы даследуем сусветны літаратурны працэс канца XX — пачатку XXI стагоддзя. У маскоўскім выдавецтве «Художественная литература» выйшла «Антология современной литературы Казахстана» на рускай мове.

**— А як вы пачалі працаваць у галіне літаратуры?**

— Я вучылася ва Украіне, скончыла Чаркаскі нацыянальны ўніверсітэт. Цягам года працавала ў школе, пазней скончыла аспірантуру Інстытута літаратуры і мастацтва ў Казахстане. У гэтай установе працую і цяпер. Вельмі рада, што літаратурныя, культурныя сувязі Казахстана з іншымі краінамі развіваюцца і пашыраюцца.

**— Што можаце сказаць пра творчасць сучасных маладых літаратараў Казахстана?**

— Наша моладзь піша вельмі таленавіта! Прыкладам, цікавыя аповесці і апавяданні на рускай мове належаць пяру празаіка з нішы каранямі Ільі Адзегава. Адметныя і творы празаіка і драматурга Міхаіла Зямскова, паэта Рамана Жукава. Паэтэса і празаік Ліля Калаус — галоўны рэдактар альманаха «Книголюб». Маладыя літаратары працуюць таксама ў жанрах публіцыстыкі, мастацкага перакладу.

**Яна ЯВІЧ**

# Строфы-дакументы

Прэзентацыя зборніка лірыкі «Вернасць паэта, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Ізяслава Катлярова, адбылася ў Мінскай гарадской ратушы. Кніга пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда».

Ужо амаль паўстагоддзя Ізяслаў Рыгоравіч жыве ў Светлагорску. Выпускнік факультэта журналістыкі БДУ, больш як 30 гадоў ён прысвяціў працы ў рэдакцыі раённай газеты «Светлагорскія навіны»: прайшоў шлях ад літсупрацоўніка да намесніка галоўнага рэдактара. Узнагароджаны нагрудным знакам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь «За асабісты ўклад у развіццё культуры Беларусі», ганаровымі граматамі Дзяржаўнага камітэта па друку, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і інш. У 2001 г. удастоены звання ганаровага грамадзяніна горада Светлагорска. Аўтар больш як 20 паэтычных зборнікаў.

Паводле намесніка дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» — галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» Алеся Бадака, кніга «Вернасць» сапраўды ўнікальная: гэта не проста паэзія, але дакументалістыка пра вайну. Тут ёсць пра што пагаварыць, паразважаць, паспрачацца. У пацвярджэнне сваіх слоў падчас прэзентацыі Алесь Мікалаевіч прачытаў некалькі радкоў са зборніка, а ўрыўкі з паэмы І. Катлярова «Брыдскі мох», дзе сэнсу няма прыдуманых падзей і прозвішчаў, прадэкламавалі артыстка, залаты голас Беларускага радыё Маргарыта Захарыя і трохкратны прызёр конкурсу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Сяргей Лапаніцын. Публіка пачула вершы з кнігі і ў аўтарскім выкананні.

Ізяслаў Катляроў — выбітны паэт і таленавіты перакладчык: ён пераствaрыў па-руску вершы больш як 50 паэтаў! Свае пераклады твораў І. Катлярова гледачам прадставіла яго жонка — паэтэса Соф'я Шах.

У кнізе «Вернасць» увасоблена праўда светаадчування не толькі І. Катлярова, але і ўсяго пакалення дзяцей вайны. За кожнай падзеяй, словам, подзвігам — канкрэтныя людзі. Да ўсяго, Ізяслаў Рыгоравіч — адзін з ініцыятараў акцыі па ўвекавечанні памяці аперацыі «Баграціён», што завяршылася поўным вызваленнем Беларусі, часткі Польшчы і Прыбалтыкі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Напярэдадні 70-годдзя вызвалення нашай краіны, у чэрвені 2014 года, на 71-м кіламетры шашы Бабруйск — Мазыр, блізу вёскі Раковічы Светлагорскага раёна, быў адкрыты памятны знак, прысвечаны ваеннай аперацыі. Пра гэта падчас прэзентацыі распавёў памочнік Прэзідэнта — галоўны інспектар па горадзе Мінску Аляксандр Якабсон.

Паэт, перакладчык Мікола Мятліцкі назваў «Вернасць» выданнем сапраўды лёсавым: пакаленне дзяцей вайны, да якога належыць І. Катляроў, не страціла ні драбніцы ад тых каштоўнасцей, на якія абапіралася і абапіраецца беларуская нацыя. Паводле дацэнта кафедры гісторыі паўднёвых і заходніх славян гістарычнага факультэта БДУ, кіраўніка грамадскага аб'яднання «Абаронцы памяці і праўды аб Вялікай Айчыннай вайне» Сяргея Александровіча, паэма «Брыдскі мох» (так называецца ўчастак зямлі паміж вёскамі Мартынаўка і Пятровічы, дзе было непраходнае балота даўжынёй 4 кіламетры) аўтабіяграфічная, яна стварае пачуццё дачынення да гістарычнай мінуўшчыны беларускага народа.

Галоўны дырэктар радыё «Беларусь», паэт Навум Гальпяровіч упэўнены: радкі І. Катлярова асабліва актуальныя для моладзі. Падзячны ліст ад цэнтралізаванай сістэмы дзяржаўных публічных бібліятэк г. Мінска Ізяславу Катлярову ўручыла яе дырэктар Алена Кубышкіна.

**Яна ЯВІЧ**

# Мілыя спадарыні

**Пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі распачаў дзейнасць клуб творчых жанчын «Спадарыня», урачыстае адкрыццё якога адбылося падчас паэтычнага свята «Адзінай ёй, і толькі ёй адной…» у сталічнай публічнай бібліятэцы № 5.**

Ва ўдзельніц шмат арыгінальных задумак: тэматычныя паэтычныя вечарыны, сустрэчы-знаёмствы з прадстаўніцамі іншых творчых суполак, сумесныя экскурсіі па літаратурных музеях і мясцінах Беларусі, удзел у мерапрыемствах жаночых грамадскіх аб'яднанняў краіны і замежжа. Дарэчы, клуб «Спадарыня» плануе цесна супрацоўнічаць з Беларускім саюзам жанчын.

Ідэю адкрыцця клуба прывіталі старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў, сябры СПБ Уладзімір Навумовіч, Валерый Чудаў, Дзмітрый Пятровіч, Мікола Шабовіч. Цудоўныя песні падарылі «Спадарыні» мастацкі кіраўнік ансамбля «Менскі гармонік» Іван Раманчук і ўдзельніца калектыву Галіна Пархімчык.

Клуб аб'ядноўвае пісьменніц на добраахвотнай аснове, але для далучэння да яго трэба напісаць твор пра сучасную жанчыну. На першым пасяджэнні такія творы прадставілі Наталія Касцючэнка, Аліна Легастаева, Жанна Міляновіч, Алена Міхаленка, Вольга Норына, Валянціна Паліканіна, Лізавета Палеес, Вольга Сакалова, Таіса Трафімава, Ірына Тулупава, Алена Турава, Ала Чорная, Вольга Шпакевіч ды інш.

Мэта клуба — прапагандаванне беларускай літаратуры, культуры, мастацтва, народных рамёстваў праз папулярызацыю дзейнасці прадстаўніц розных творчых суполак краіны.

**Тамара БУНТА**

# Дабравест ад паэзіі

Прэзентацыя паэтычнага зборніка «Дабравесце» Анатоля Малюка адбылася ў мазырскай цэнтральнай бібліятэцы імя А. С. Пушкіна ў межах дэкады беларускай мовы.

Анатоль Казіміравіч нарадзіўся на Воранаўшчыне. Скончыў Мазырскі дзяржаўны педагагічны інстытут, працаваў на кафедры беларускага мовазнаўства Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя І. Шамякіна. Друкаваўся ў калектыўных зборніках, газетах, часопісах «Маладосць», «Беларусь», «Бярозка», «Вясёлка». Доўгі час узначальваў літаратурнае аб'яднанне «Прыпяцкія хвалі», неаднойчы ўдзельнічаў у творчых семінарах, якія праводзіліся Саюзам пісьменнікаў Беларусі.

Анатоль Малюк зазначае: «Сапраўдная паэзія, як каханне, як малітва, ускалыхвае, абнаўляе чалавека». Зборнік складаецца з пяці раздзелаў, у якія ўвайшлі разнастайныя па тэматыцы вершы, дзе адлюстраваны ўнутраныя перажыванні аўтара, яго роздумы і развагі.

Паэзія Анатоля Малюка меладычная, шмат яго вершаў пакладзена на музыку. Падчас імпрэзы кампазітар і бард Міхаіл Копач выканаў песні на словы аўтара. Павіншаваць Анатоля Казіміравіча завіталі паэты Галіна Дашкевіч і Васіль Андрыеўскі. А таксама навучэнцы абласнога ліцэя, гімназіі імя Я. Купалы.

**Надзея КАПЫЛОВА**

# Інтанацыі кахання

Сустрэча з членам Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускага саюза журналістаў Вольгай Норынай адбылася ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 11.

На творчым рахунку аўтаркі — тры зборнікі лірыкі: «Пакуль на свеце ёсць бэз», «Гарадская трава» і «Апошняя жанчына дона Хуана». Падчас імпрэзы гледачы пачулі не толькі паэзію, але і песні на вершы Вольгі Норынай у выкананні барда Сяргея Панамарова.

У сваёй творчасці В. Норына настальгуе па савецкім часе, не баючыся падаца чытачу нямодтай. Узорам па-сапраўднаму моцнай сям'і для яе сталі бацькі. Але слова «каханне» дома ўголас не прамаўлялі — Вольга, тады яшчэ школьніца, чула яго толькі з вінілавых кружэлак. Пасталеўшы, пачала пісаць вершы пра каханне, у якіх гэтак жа пазбягала запаветнага слова.

Радкі паэтэсы, што далі назву зборніку «Апошняя жанчына дона Хуана», перастварыў па-беларуску паэт Мікола Маляўка, а на музыку іх паклала бард Вера Лебядзеўская. Пераклад верша балгарскага паэта Весяліна Ханчава «Парыжскі дождж, пра які спявала катрынка» стаў песняй дзякуючы калегу В. Норынай па пяры — пісьменніку і барду Дзмітрыю Пятровічу.

Таксама на імпрэзу завітала паэтэса, сябар СПБ Аліна Легастаева, прысвячэнне якой увайшло ў новы зборнік.

**Яна ЯВІЧ**

# Новы голас, старыя песні

Прадзюсар Андрэй Разін завітаў у Мінск з новым сольным праектам, прэзентацыя якога адбылася ў сталічным начным клубе «NEXT». Ён прадставіў публіцы маладога выканаўцу Паўла Родні і яго кліп.

Андрэй Разін, член Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускага саюза журналістаў, лічыць беларусаў сваімі землякамі: яго бацька быў родам з Гродзенскай вобласці. Менавіта прадстаўнікі айчыннай прэсы першымі ўбачылі новы праект. Перад тым як запісаць кліп і альбом «Перафарбую каханне», Павел прайшоў сур'ёзны кастынг, дзе ўдзельнічала больш як дзве тысячы кандыдатаў. За плячыма выканаўцы — вучоба і 7 гадоў жыцця ў Англіі. У планах — гастрольны тур у 223 канцэрты.

І ў які ж, мяркуеце, колер імкнецца перафарбаваць каханне Павел Родні? Нізавошта не здагадаецеся — у… апельсінавы! Кліпы на яго песні ўжо транслююцца на папулярных музычных каналах, наклад альбома — 200 тысяч экзэмпляраў.

**Яна ЯВІЧ**

# Вершы, музыка і кіно

Творчая вечарына «Шлях да гары» — прэзентацыя новай паэтычнай кнігі Уладзіміра Мароза «Крыжы на ростанях» — адбылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Лірыка выдання вызначаецца медытатыўнасцю і духоўнасцю, філасофскім характарам.

Дзейнасць Уладзіміра Вікенцьевіча шматгранная. Пяру творцы належаць 19 кніг паэзіі, прозы і эсэ. Акрамя таго, аўтар з'яўляецца кінарэжысёрам і сцэнарыстам. Прысутныя ўбачылі відэаролік пра кінематаграфічную творчасць Уладзіміра Мароза. На экране дэманстраваліся кадры з фільмаў. Адметна, што па сцэнарыях аўтара створана больш як 65 дакументальных стужак, яшчэ пяць ён зняў як рэжысёр. Шэраг карцін адзначаны прызамі міжнародных кінафестываляў.

Невыпадкова месцам правядзення імпрэзы стаў дом песняра. Уладзімір Вікенцьевіч — Коласаў зямляк, Мікалаеўшчыну лічыць сваёй малой радзімай. Паэт чытаў уласныя вершы, прыгадваў цікавыя выпадкі з жыцця. Цёплыя словы ў адрас творцы выказалі сябры і калегі. Музычнае афармленне імпрэзы песнямі на словы паэта стварыў бард Аляксей Нежавец.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Свята духоўнай кнігі

У нядзельнай школе Свята-Елісавецінскага манастыра адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная Дню праваслаўнай кнігі, які праводзіцца ў нашай краіне ўжо пяты раз і прымеркаваны да памятнай гістарычнай падзеі — выпуску першай друкаванай кнігі на Русі Іванам Фёдаравым і Пятром Мсціслаўцам «Апостал», паведаміў Алег Кунцэвіч, член выдавецкага савета Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Як распавяла кіраўнік праекта Таццяна Ціханава, у межах свята ва ўсіх епархіях адбудуцца сустрэчы з творчымі асобамі, «круглыя сталы», семінары, урокі духоўнасці па матэрыялах кніг праваслаўных аўтараў, кінапаказы, лекцыі па гісторыі кнігадрукавання і жыціях святых. Арганізаваны ўнікальныя выстаўкі рукапісных і старадрукаваных выданняў з фондаў епархіяльных кніжніц, ярмаркі праваслаўнай літаратуры для дзяцей, моладзі і сямейнага чытання. Праходзіць дабрачынная акцыя «Падары праваслаўную кнігу»: сабраныя выданні будуць перададзеныя ў дзіцячыя дамы і школы-інтэрнаты.

Госці Нацыянальнай бібліятэкі змогуць пазнаёміцца з экспазіцыяй сапраўдных старажытных рарытэтаў. У правядзенні ўрачыстых мерапрыемстваў возьмуць удзел Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, а таксама Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# «Дружба» творчая

Творчую сустрэчу зладзілі ў брэсцкай кнігарні «Дружба»: наведвальнікі маглі пагутарыць з мясцовымі пісьменнікамі і паслухаць беларускія, рускія ды ўкраінскія песні ў выкананні маладзёжнага хору Свята-Раства-Багародзіцкага жаночага манастыра (мастацкі кіраўнік — выкладчык Брэсцкага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Рыгора Шырмы Кацярына Фёдарава) і спевы трыа «Кацярынка».

— Такія творчыя сустрэчы сталі для нас добрай традыцыяй, — зазначыла вядучы спецыяліст па арганізацыі гандлю і рэкламе рэгіянальнага філіяла «Брэсткніга» Валянціна Фёдарава.

Старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Беларускага саюза журналістаў Георгій Тамашэвіч падкрэсліў: сустрэчы з пісьменнікамі, сярод якіх Зінаіда Дудзюк, Любоў Красеўская, Анатоль Крэйдзіч, Аляксандр Валковіч, Мікалай Пракаповіч і інш., варта працягваць, тым больш што сёлета Брэст абвешчаны культурнай сталіцай Беларусі.

**Вольга СВІРЫДОВІЧ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**23 сакавіка** — *на свята дзіцячай кнігі, якое адбудзецца ў СШ № 13 (вул. Ціцоцкага, 57). Пачатак а 12-й гадзіне.*

24 сакавіка — *на творчую сустрэчу з дзіцячай пісьменніцай Аленай Прахінай. Імпрэза пройдзе ў дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**24 сакавіка** — *на прэзентацыю кнігі Міхася Пазнякова «Наталенне Радзімай» у публічнай бібліятэцы № 21 (вул. Слабадская, 63). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**24 сакавіка** — *на свята дзіцячай кнігі, якое пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 7 (вул. Пляханава, 94/4). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**26 сакавіка** — *на прэзентацыю дзіцячай кнігі пісьменніцы Яны Явіч «Уцёна хоча ведаць» у публічнай бібліятэцы № 13 (вул. Народная, 43а). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**26 сакавіка** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Яна Чачота, 23) на творчы вечар пісьменніка Навума Гальпяровіча «Прамяністае святло таленту». Пачатак а 16-й гадзіне.*

**27 сакавіка** — *у літаратурную гасцёўню «Аўтограф» пры інтэрнаце № 8 (вул. Карбышава, 42) на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Мацвеенкам. Пачатак а 11-й гадзіне.*

**28 сакавіка** — *на Велікапосны канцэрт духоўна-асветніцкага праекта «Галасы праваслаўнай Беларусі» ў Цэнтральным Доме афіцэраў (вул. Чырвонаармейская, 3). Пачатак а 15-й гадзіне.*

Саюз пісьменнікаў Беларусі смуткуе з прычыны смерці найвыдатнейшага рускага пісьменніка, члена Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, гуманіста і патрыёта Валянціна Рыгоравіча РАСПУЦІНА і выказвае шчырыя спачуванні сваякам, блізкім, усім прыхільнікам бліскучага таленту майстра сусветнай літаратуры.

**Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці празаіка, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіля Канстанцінавіча ШАБАЛТАСА і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

## Зінаіда ДУДЗЮК



***

Як вабіла лістоту вышыня!
Як клікала шырокая прастора!
Там можна долю лепшую спаткаць,
Там можна лётаць над ракой і борам.
Яна за ветрам здрадлівым услед
Памкнула і адчула ўцеху лёту.
І расчыніўся перад ёю свет
Ад непагадзі змрочны, стылы, слотны.
Прыпала да халоднае зямлі
З адным жаданнем — прарасці нанова.
Дажджынкі беглі ў дрэва па камлі
Без горычы, без жалю і без словаў...

Мы ўсе — лістота
вечнага жыцця.
Шумім, сумуем, любім
і трапечам,
Не разумеем: мы —
толькі працяг
Чужое мары і любові нечай.
І мы жадаем над зямлёй ляцець,
Не ведаючы часам пэўнай мэты.
І падаем дадолу найчасцей
Ці прападаем, звабленыя светам.
Кароткі век міне для нас няўзнак,
Імклівы час прывык ляцець,
спяшацца.
А заўтра недзе новая вясна
Ў чужой душы абудзіць
прагу шчасця.

***

Сёння ноччу снег праходзіў міма
І сцяжынкі ледзь зацерушыў.
Ён не ведаў, што даўно мне мілы,
Што яго з'яўленне —
для душы.

Ён наогул пра мяне не знае,
У яго сваё жыццё-быццё.
У сплату мне снегу не хапае,
Ненавіджу ветрава выццё.

Не хапае лёгкага марозу
І бяскрайняй белаты палёў.
Восень — нібы стомленасць
ад прозы,
Першы снег —
паэзіі палёт.

***

Над дзедавай магілаю
Два явары шумяць,
А збоч крыжы пахілыя,
Збуцвелыя стаяць,
Ды пад гарой высокаю
Плыве сабе Дняпро.
Не зарасце асокамі
Яго ніколі дно.
Усё знясе, пасіляе,
Не знае перашкод...
У дзеда на магіле
Амаль паўсотні год
Чабор квітнее водарна,
Пільнуючы зару,
Зацішна там і одумна
Ў світальную пару,
Дзе продкі ўсе сабраліся,
Вітаць душой душу.
За век нагараваліся,
Цяпер хоць адпачнуць.

***

Пазнавай мяне, пазнавай,
Як забытую кнігу чытай,
Адкрывай і пяшчоту, і ласку,
Выдумляй мяне, нібы казку.
Сустракай, як жаданую радасць,
Каб не ведаць падступных звадаў,
Каб дажыць запаветную рэшту

І адкрыць яшчэ светлае нешта
У будзённых памкненнях і лёсе...
Ды ці тое,
што трэба,
просім?..

***

Памыснасць зведала і згоду
Ад слова, рыфмы і радка,
Ды найвышэйшай асалодай
Ў тваёй руцэ — мая рука.

На жаль, у рук свае заняткі:
Ім трэба працаваць і жыць.
Рука ў руцэ завецца святам,
Якое трэба заслужыць,

Ці дачакацца, ці прыдумаць,
Ці мо прысніць у дзіўным сне,
Каб вочы выбавіць ад суму
У абыякавай вясне.

Ты праз прастору незалежна
Ўсё ж цягнеш да мяне руку.
І стане шчасце непазбежным
На нашым немалым вяку.

***

«Пара, пара», — гучыць
анёла голас.
Я азірнуся на пражыты шлях
На свеце гэтым ўражлівым
і кволым,
Дзе раскашуе велічна зямля.

Пара! Пара! За што? Куды?
Навошта,
Калі хапае неадкладных спраў,
Калі лісты яшчэ прыносіць
пошта?
Няўжо сказалі мне:
«Пара, пара...»

Ну што ж, хіба з нябёсаў
кліч аспрэчыш?
Калі пара, дык трэба выбіраць
Важнейшую з двух неабходных рэчаў:
Пажыць яшчэ ці спешна
паміраць.

Але пакуль здагадку спелю
ў сэрцы,
Што мне пара на волю
ўдалячынь,
Пакуль належу я жыццю,
не смерці,
Надзеі птах шчабеча
на плячы.

***

Як жа так сталася?
Мы размінуліся.
Быццам адною дарогаю
крочылі.
Вёрсты далёкія
перагукнуліся,
Лёсы няўзнак
ад сумеснасці
збочылі.
Вось і стаім на паўстанках
заснежаных
Ды азіраем мінулае светлае,
Як дзве дзяржавы
з закрытымі
межамі,
Два спадзяванні
з усмешкаю
ветлаю.

Ты ўспамінаеш, я ўспамінаю,
Ды паасобку трываем
нядолю.
Вуснамі мерзлую былку
кранаю —
І ачуняе яна ад болю...
Гэта ілюзія, дзіўны падман.
Я не валодаю сілай такою:
Сеяць жыццё,
дзе ўладарыць
зіма,
Сэрцам будзіць запусцене
спакою.
Што адбылося,
не пераменіш.
Існасць прымаю
з пакорою,
Моўчкі варочаю згадак
каменне,
Неяк самоту агораю...

## Віктар ШНІП



***

Ты многа знаеш і таму даўно маўчыш,
Як камень, пад які вада не зацякае.
Вада цячэ вясной з палёў праз Пугачы
І ў мора невядомасці рака ўпадае.
І белы свет чарнее, як чарнее снег,
Дзе чорны воран, што цяпер
з табой сябруе,
Не просіцца ўжо ў хату болей на начлег,
Ён сонца веснавое кожны дзень пільнуе,
Як кураня, якое хутка падрасце,
Якое потым можна задзяўбсці і ўволю
Наесціся, схаваўшыся ў густым кусце,
Не падзяліўшыся ні з кім,
з табой тым болей.
Ты знаеш многа і таму, як смерць,
маўчыш,
І да цябе ніхто з людзей не заглядае,
І толькі зрэдку забягае з поля мыш,
Ды й тая мыш такая, як і ты, рудая.
А я цяпер зайшоў на хвілю да цябе,
Каб павітацца і сказаць,
што тут вясною
Няма чаго хаваць сябе ў сваёй журбе,
Няхай яна сплыве праз Пугачы з вадою
І знікне ў моры невядомасці зямной.
І скажаш смела ты, пра што
маўчыш гадамі.
І чорны свет амыецца тваёй слязой
І нашы Пугачы зноў стануць Пугачамі,
Дзе мы, нібыта ў вечнасць,
у ваду глядзім,

І дзе вада, як вечнасць,
нам глядзіць у вочы.
І белы з яблынь дым —
Айчыны родны дым,
І дыму іншага з табою
мы не хочам...

***

Калі ты без дарогі дахаты дайшоў,
Над табой, як анёлы, раіліся зоры.
І ў табе, адзінокім, сядзела любоў,
Нібы шэрая котка ў халоднай каморы
У той хаце, якую пакінулі мы,
Калі маці і бацька былі
ўжо ля Бога,
І для нас не было болей
белай зімы,
Як нам тая зіма з палявою
дарогай
На старыя клады,
дзе чарнелі крыжы,
Дзе ля помнікаў лёд, нібы воск
ад тых свечак,
Што згарэлі зімой, калі снег і дажджы
Нам шапталі штодзённа:
«Гады ўсё залечаць...»
Ну а ты без дарогі дахаты пайшоў,
Над табой, нібы продкі,
шапталіся зоры.
І ў табе, адзінокім,
сядзела любоў,
Нібы шэрая котка
ў халоднай каморы...

***

у майстэрні жывуць фарбы
і калі цябе няма сярод іх
яны самі ствараюць свет
прыгожы і страшны
вясёлы і сумны
каляровы і шэры
і чым ты даўжэй не вяртаешся
тым больш фантазіруюць фарбы
і кожная лічыць
што яна самая галоўная
як нядаўна для іх быў ты
аднойчы ты не вернешся зусім
і фарбы памруць таксама
але толькі на міг
пакуль не ўзыдзе сонца
з цюбіка небакраю

## Восень у Лошыцы

яблыкі ў траве
як вялікія божыя кароўкі
якім не хочацца ў неба
бо ім добра тут
у парку ў Лошыцы
дзе ты ідзеш сярод яблынь
як Адам у пошуках Евы
якую яшчэ не стварыў Бог
бо ён стварае Восень
і падае лісце табе пад ногі
як крылле божых каровак
што даляцелі да сонца
і сталі восеньскім сонцам
якое плыве над светам
самотнае як купал Храма
што патануў у вечнасці
якая стала ракой
дзе сёння адлюстроўваецца
Восень у Лошыцы

***

Венецыі вада ў маёй далоні
Празрыстая, нібы апошні верш
Паэта старажытнага, што сёння
З вады мне прашаптаў:
«І ты памрэш...»
Мы ўсе памром і зробімся вадою,
Якую нельга піць, бо ў той вадзе
Няма жыцця, як неба — над зямлёю,
А неба тут над намі, як нідзе.
І чайка ап'янелая ад спёкі
Кідаецца ў ваду, нібы паэт,
Якому напляваць, што я здалёку
Сюды прыехаў, каб пабачыць свет
І палюбіць Венецыі каналы,
І вузкія гарбатыя масты,
Дзе я з каханаю хаджу памалу,
Нібы з багіняю, з якой на «ты».
Сцякла ў ваду вада з маёй далоні,
Пякучая, нібы агонь, сцякла,
Каб я прад смерцю гэты
дзень успомніў
І прашаптаў:
«Венецыя была...»

***

Нібы малітва, пачынаўся дзень,
І прарастаў туман з сырой зямлі.
Плыў жоўты човен па начной вадзе,
І следам зоркі мёртвыя плылі.
І ты стаяў на беразе ракі,
Нібы стаяў на беразе жыцця.
І дробныя кусты, нібы ваўкі
Аблезлыя, стаялі без лісця,
І вецер восеньскі ляцеў праз іх,
Нібы між рэбраў, між крывых сукоў.
Дзень пачынаўся, як апошні ўздых,
Як верш апошні пра тваю любоў
Да родных ніў, што шэрымі стаяць,
Да хат старых, дзе цішыня і сон,
Дзе на страсе буслы ўжо не сядзяць
І дзе з вакна, як сірата, вазон
Глядзіць на свет, не знаючы, што свет,
Нібы малітва, што ты прашаптаў...
І зоркі ажылі, і за табою след,
Як першы снег, з'явіўся і растаў,
Дзе ты стаяў на беразе ракі,
Нібы стаяў на беразе жыцця,
І чорнымі, нібы чарнавікі,
Былі сумёты мёртвага лісця...

***

Чырвоны воўк ідзе па снезе белым,
Як сонца, што зрабілася ваўком,
У снег упаўшы з небакраю смела,
Агонь і дым рассыпаўшы кругом.

Ты не баішся гэтую звярыну,
Бо ты і сам як невядомы звер,
Які сваю каханую пакінуў
І смерць сваю шукае ўжо цяпер.

Чырвоны воўк з табою размінецца
І пойдзе ў лес, нібы ў свой белы Храм,
І ноч, нібы ваўчыны плач, пачнецца,
І ты, як белы воўк, завыеш сам...

***

Праз весні дождж, нібыта праз слязу,
Няспешна з дому ў памяці нясу
Сваю самоту па бацьках, бяду,
Нібыта ў прыгаршчах з ракі ваду.
Бацькоў няма, але ідзе жыццё,
Расце трава, трапечацца лісцё
Ад подыху сцюдзёнага вятроў.
Ніколі не забыцца пра бацькоў,
Як пра пачатак сатварэння свету.
Цяпер куды ні йду, куды ні еду
Мая душа напоўнена бацькамі,
Як Храм малітвамі і абразамі...



## Міхась ХАМЕЦ

# Калі б я не з'явіўся на свет...

### ПЕРШАЕ СОНЦА

З першым сакавіцкім сонцам я сустрэўся на скрыжаванні вуліц Аэрадромнай і Брылеўскага. Буйнае і яркае, зіхатліва-ружовае, яно выглянула з-за будынкаў, дрэў і, падалося, зазірнула мне ў самае сэрца. І праўда, зрабілася ўтульна і весела.

Ужо на працы перакінуў старонку насценнага календара з узорамі адмысловай зброі, заварыў кавы, паглядзеў у вокны. На дрэвах ляжаў снег, неба было шэрае і хмурае, сонца схавалася, але яго цёплы пагляд на скрыжаванні халодных вуліц усё яшчэ жыў у маёй душы.

### НІ ДАРОГ, НІ ЗОРАК…

Сёння, у Чырвоную суботу, пад свіст, шум, шчабятанне і гаману птушак садзіў гарох і цыбулю на градках лецішча, а думаў пра суседзяў Юру і Валодзю, якія мінулай зімой адышлі ў іншы свет, і мне ніяк не ўдавалася зразумець, адчуць, уявіць і змірыцца з тым, што можна не чуць, не бачыць, не адчуваць, не ўпівацца тым, што зараз, па вясне, творыцца на зямлі. Сонечны шчаслівы вір быццяіснавання пругкаю крыніцаю б'еца, свіціцца, радуецца, і такім недарэчным, нелагічным, няправільным і страшным здаецца адыход туды, дзе пуста: ні цемры, ні холаду і цішыні, ні слоў і ўсмешак, ні дарог і зорак.

### ВАЛОШКІ НА ПОЖНІ

Над наваколлем уладарыць прыгажуня-восень, таму дзіўнымі падаліся вочы васількоў на жатым полі. Я ішоў па ім напрасткі, па сухой хрусткай пожні. Згадалася сярэдзіна лета, высокае жыта і мноства сініх валошак у палоне спелых каласоў.

І вось, калі ласка, восень-князёўна… Толькі на сэрцы ні зярнятка суму — нямала зроблена і пройдзена, штосьці сказана, нешта пачута і крыху задумана… А на пожні тыя ж васількі-валошкі! Як успамін аб пражытым-перажытым. Як спадзеў на новае лета.

### АДКРЫЦЦЁ

Доўгія бетонныя слупы для будучай агароджы цягалі на пагнутых ад цяжару металічных прутах. Урвалі рукі, што і казаць, а найперш малойцы, прывучаныя да клавіятуры камп'ютара і руля шыкоўнага амерыканскага аўтамабіля. Адзін з іх, кінуўшы вокам на далёкі краявід з залатых бяроз у цёмна-зялёным сасонніку, прамовіў:

— А вакол такое хараство…

…На вялікі жаль, часцей мы пялімся ў зямлю, чым глядзім у неба.

### ЦІШЫНЯ І ВЕЧНАСЦЬ

Стаяў між цішынёй і таямнічасцю далёкай трапяткой зоркі ў небе і гулкім вуркатаннем крыніцы пад альховым кустом. Мне было спакойна і добра.

Але несучы паўнюткае вядро вады і зноў паглядзеўшы на абыякавыя зоркі над галавой, падумаў: зоркам у бяздонным небе і той вясёлай крыніцы ля ўтравелага ручая няма ніякай справы да людскіх турбот і хваляванняў. Ёсць я — няма мяне, — якая розніца для мільёнаў зор і адной крынічкі, якая не замярзае і ў самы люты мароз.

### У СПЁКУ

Ён рухаўся да плошчы Перамогі, а як толькі зглядзеў на ганку прыватнай крамы знаёмую дзяўчыну-прадаўшчыцу, гучна і весела павітаўся, потым спытаў, ці доўга будзе працаваць. На адказ гэтак жа радасна, бадзёра ўсклікнуў:

— Буду вяртацца — заскочу!

…Спякота плавіла асфальт, і ад яе ратаваў хіба толькі кволы цянёк змарнелых, няшчасных дрэў. А малады чалавек быццам не заўважаў гэтай неміласэрнай задухі: дужымі рукамі, лоўка і спрактыкавана падцягваючы хворыя ногі, упіраўся ў драўляныя мыліцы і зноўку спрытна асядаў на іх. Шпацыраваў інвалід на дзіва хутка, з твару не сыходзіла добрая шырокая ўсмешка, а на расплаўленым асфальце з'яўляліся круглыя сляды — пячаткі ад мыліц.

Чамусьці захацелася, каб хлопец хутчэй вярнуўся да знаёмай дзяўчыны-прадаўшчыцы.

### ЗАЙЗДРАСЦЬ

Стаяў на прыпынку і пад апляўхамі халоднага ветру і занудным гулам легкавушак чакаў аўтобуса. Як на злосць, ён спазняўся і з кожнай хвілінай усё больш і больш псаваўся ранейшы прыўзняты настрой. Пачынала здавацца, што ўся навакольная шэрасць дрэў, агароджы, асфальту і неба ўлівалася ў маё нутро, запаўняючы яго да апошняй клеткі.

Раптам надрыўны гул самалёта прымусіў узняць галаву — з боку аэрадрома выплываў вялікі і важкі пасажырскі самалёт, пад фюзеляжам якога мігаў яркі жоўты маячок. Самалёт ляцеў над самай зямлёй, ніжэй шэрай навалы хмар і, скварна праглынуўшы вышыню, неяк нечакана і да крыўднага хутка ўторкнуўся ў заслону шэрані і знік. Быццам гуку і не стала.

…Аўтобуса ўсё яшчэ не было. Я з тугой пазіраў у шэры парасон над галавой і па-добраму зайздросціў людзям, якім расхінуўся блакіт неба з яркім сонцам.

### ПАРАСТКІ ТАПОЛІ

У гарадскім двары расла старая вялікая таполя, якую па вясне спілавалі, пакінуўшы ля самай зямлі пень, аграмадны і круглы, як стальніца. Мінула лета, на сыходзе лістапад, і сёння, ідучы па сцежцы таго самага двара, я кінуў позірк на камель ад таполі і знерухомеў: па ўсім перыметры яго густа разрасліся-перапляліся доўгія атожылкі. Здавалася, нейкая добрая глыбінная сіла паіла парасткі зямнымі сокамі, і яны дружна цягнуліся да сонца.

І адразу падумалася пра маці, бацьку, пра дзядоў сваіх, якіх мне не пашчасціла бачыць і чуць. Іх даўно няма, а нас, нашчадкаў, вунь колькі — дзяцей, унукаў, праўнукаў. Адно толькі шкада, не разам мы… Не за адным камлём-стальніцай, як тыя парасткі старой таполі.

### ПАЧУТЫ БОЛЬ

Часу бракавала, але я ведаў, што сябру дужа кепска, і праз вялікі горад паехаў на сустрэчу.

З Міколам Бекам мы землякі: я — «дземідовец», з вёскі Дземіды, ён з суседніх Бякоў, дзе была пачатковая школа, а потым васьмігодка. Аднак па-сапраўднаму нас зблізіў-парадніў Мінск, і то ў сталыя гады. Мы не тое каб часта бачыліся, аднак кожная сустрэча на беразе Камсамольскага возера, у падзямеллі ягонага аздараўленчага комплексу, ці за столікам кавярні на Магілёўскай вуліцы, пакідала на сэрцы і ў памяці пяшчотны і цёплы след. Вось і на гэты раз…

… Ён гаварыў, я толькі слухаў і добра разумеў яго, бо таксама перажываў горка-незваротную страту самага дарагога чалавека на зямлі. Калі памірае маці, рушыцца цэлы свет…

Мікола прамаўляў пра сваю маці з цеплынёй і пашанай, з любасцю і дабрынёй і з такім болем у душы, што хмары расступіліся, выглянула сонца, і на небе з'явілася вясёлка. Потым ён сцішыўся, неяк абмяк, прыкрыў твар шырокімі далонямі і спачатку нячутна, а потым гучна, наўзрыд заплакаў. Я падняўся з лаўкі, на якой мы сядзелі, адышоў убок.

Побач гудзеў, шумеў, цокаў абцасамі дамскіх пантофляў вялікі горад, у цёплых абдымках вясёлка трымала хмарнае, з прасветамі неба, а на драўлянай лаўцы ўжо немалады пасівелы чалавек ліў горкія слёзы па сваёй вясковай маці, якая дзевяць дзён таму пакінула зямное жыццё. І гэты пякельны боль сына ад бяссілля штосьці змяніць ці перайначыць, пачула, здаецца, само неба. Яно спахмурнела яшчэ больш, а вясёлка знікла.

### НАДВЯЧОРКАМ

Познім надвячоркам, ужо на сутонні, глядзеў, як над цёмным грэбнем лесу лёгенька плыў бліскучы маладзічок. Але радасць цёплага сузірання была нядоўгай. Сваім ніжнім вострым ражком месячык зачапіўся за вяршок самага высокага дрэва, а потым схаваўся зусім.

На небе стала пустынна і адзінока, бо зоркі яшчэ не прачнуліся.

### УСМЕШКА АД ГАЛУБКА

У гастраноме на рагу вуліц Караткевіча і Чкалава працуе вялікая круглатварая дзяўчына, даволі сімпатычная, але прыхаванае хараство якой псуе хмуры, насуплена-непрыветлівы выраз твару. У такой грымзы іншы раз нават не хочацца нешта купляць.

А сёння ўбачыў, як дзявуля лавіла галубка, што няўрокам заляцеў у кут ля ўваходных дзвярэй. Бедная птушка не давалася, білася аб шкло прачыненых дзвярэй, аднак прадаўшчыца, хоць і мажная ў целе, спрытна і зграбна ўхапіла галубка, а потым, выцягнуўшы рукі, выпусціла ў свет. На злосна-панылым твары ў гэты міг засвяцілася ўсмешка, якая неверагодна ўпрыгожыла твар, і мне захацелася нешта купіць у чароўнай прыгажуні. Падаючы грошы, прамаўляю:

— Дзякуй, вы сёння вельмі прыгожая!

— Чаво? — злосна перапытала дзяўчына.

Нічога лепшага ў адказ не прыдумаў:

— А нічаво…

### АДВЕЧНАЕ

Леваруч — груваста шэрая агароджа з кольцамі калючага дроту, за якой узлётная паласа аэрадрома, справа — шырокая вуліца-асфальт з няспынным і нястомным гулам машын, а між імі — алея з таполяў. Старыя дрэвы сваімі верхавінамі сплялі доўгі, шчыльны тунель, засланілі неба і прытулілі-прыхавалі вузкую сцяжыну, там-сям прыцярушаную апалым парыжэлым лісцем. Тупаць па дарожцы было прыемна: неяк раптоўна і даволі нечакана сцежка пераносіла з гарадскога тлуму ў вусцішнасць і супакой прыроды.

З боку адкрытай прасторы аэрапорта дзьмуў моцны парывісты вецер, для якога сцяна з магутных тапаліных ствалоў і густой заслоны ліствы стала першай перашкодай у нястрымнай вольнасці, і ён з адчайнай асалодай і ваяўнічым імпэтам біў, шкуматаў і трос старыя дрэвы. Яны выгіналіся, скрыпелі, шумелі голлем, губляючы лістоту, а то і цэлае вецце, але мужна і стойка пераносілі шалёны налёт і хмельную свабоду ветру. Штосьці дзікае і грубае было ў гэтым змаганні. Штосьці сапраўднае, адвечнае, як дабро і зло, як ціхія крокі па сцежцы, якія не зарастаюць, пакуль па ёй ходзіць жывая істота.

### КАЛІ Б Я НЕ З'ЯВІЎСЯ НА СВЕТ…

…Свяціла б сонца, падаў бы снег, птушкі спявалі б, у школу хадзіла б дзятва — калі б я не з'явіўся на свет.

І крыніцы бруілі б, не пуставалі б дарогі, яблыні буялі б белым цветам…

Але свет вялікі і прыгожы, таму што кожны з нас з'явіўся для яго.

### ЗГАДКА

Яму толькі за семдзесят, але з дому не выходзіць — не пускае хворае сэрца і распухлыя непаслухмяныя ногі. Глядзіць тэлевізар, крыху чытае… У пакоі завалена, непрыбрана, а канапа ўтаптаная, як сцежка да калодзежа. На самыя прыгожыя маладыя гады выпала доўгая марская служба, пакінуўшы хвалісты след на ўсё жыццё. У сімволіцы мора ўвесь пакой — штогоднікі, шторы, талеркі. На кніжнай паліцы стаіць макет крэйсера, з вушака дзвярэй звісае корцік.

Сумна чалавеку вось так, у адзіноце дажываць свой век… Ды чалавек трымаецца малайцом, пры сустрэчы спрабуе жартаваць. А яшчэ згадвае пра дзяўчыну, з якой калісьці бачыліся па дарозе на працу. «Паглядваем адно на другога, — расказвае стары, — а загаворваць не асмельваемся… Азірнуся праз колькі крокаў — і яна глядзіць… Пэўна, нешта было ў нас… Можа, каханне?»

### ДАРАВАННЕ

Стамляўся… Было такое, калі цягаў глыбы старога падмурку, капаў траншэю для новага…

Толькі вялікая стома мяне не адгарадзіла, не пазбавіла ад вельмі прыемнага пачуцця зробленага і перажытага. Я шчаслівы! Што адолеў тую траншэю пад цагляную альтанку. Што з цікаўнасцю назіраў за сініцай, якая ўпадабала люстэрка на сцяне і ніяк не магла даўмецца: хто гэтая красуня насупраць? Што бачыў на дзіва нізкія шэрыя хмары і рваў сакавітую пунсовую каліну… Што хораша думаў пра родных і з цеплынёй згадваў сяброў: як яны без мяне?

…Дзіўна! Сёння я не прамовіў ніводнага слоўца, а здаецца, што перагаварыў з усімі, каго ведаю і люблю. Нават з тымі, хто мяне моцна пакрыўдзіў: у еднасці з прыродай і сваёй душой я дараваў ім.

### ЖЫТНЁВАЕ ПОЛЕ

Перад Навінкамі ў жытнёвы хвалісты прасцяг уплялася цупкая, добра ўезджаная дарога. Яна пачынаецца ад загружанай шашы і доўгім звілістым паяском быццам злучае-перавязвае дзве бакавіны аграмаднага поля, адзін край якога прасавалі машыны, а на другім віднеліся забудовы горада, зменшаны адлегласцю да пачкаў ад запалак.

Дзіўнае агарнула пачуццё, калі, збочыўшы з шумлівага асфальту, павярнуў на ладную палявую пуцявіну сярод залатых жытоў. Уразіла раптоўная, быццам сонны правал, перамена: вялікі горад знік, як не было, а над ім красавала толькі густое, спелае калоссе, якое шамацела, угіналася, гойдалася пад павевамі ветру. Яго шоргат быў настолькі моцны, глыбокі, што перабіваў гул тэхнікі. І такой хвалюючай, страшнай і… недарэчнай падалася ў такі момант згадка нябожцы-маці пра вайну… З дваімі дзіцяткамі яна хаваецца ў жыце ад аблавы нямецкіх карнікаў. Меньшанькі Міколка заплакаў… Маці спрабуе неяк суняць, сцішыць яго, моцна туліць да сябе, закрываючы галоўку… І ў гэты ж момант чорным ценем вырастае жудасная постаць з аўтаматам…

…Ці хадзіў бы я па гэтай прыгожай палявой дарозе, калі б немец з атрада карнікаў націснуў курок аўтамата? А ён толькі прыклаў палец да вуснаў, маўляў, цішэй, матка, і пасунуўся далей па высокім жыце на ваколіцы нашай вёскі.

### ЖОЎТЫ СНЕГ

У бальнічнай палаце № 4 разам з сябрам ляжыць сем хворых на сэрца, і, калі паваліў густы снег, усе паўставалі з ложкаў і цесна стоўпіліся ля вокнаў. Сёлета зіма запазнілася, і старыя, як дзеці, узрадаваліся першаму снегу.

Пад жоўтым святлом ліхтароў віхурыў, кружыў, віхляўся, выгінаўся аграмадны залаты шар, з якога мужчыны не зводзілі вачэй. Палату ахутала вусцішная цішыня: здавалася, можна пачуць шоргат крыльцаў на бухматых матылькаў-сняжынак.

Але нечакана чароўную вусцішнасць аглушыў жаночы голас з калідора:

— «Чацвёртая», на вячэру!

Хворыя неахвотна і маўкліва ішлі ад акна, і толькі мой сябар, схуднелы і няголены, зноў прылёг на ложак. Снег, які пачаўся раптоўна, гэтак неўзабаве спыніўся. Жоўтая коўдра накрыла бальнічны двор, а лімонна-шэры твар сябра выклікаў трывогу.

### МАЯ КРАІНА

У маёй краіне хораша цвітуць рамонкі, буяюць ажыны, а шпакі прыносяць вясну.

Тут жывуць розныя людзі: добрыя і хітруны, вясёлыя і падхалімы, закаханыя і дурні… Але яны ацураліся мілагучнай мовы маёй краіны, яе чыстага і прыгожага сцяга і вершніка на белым кані.

Будуць цвісці рамонкі, на ажыны злятуцца пчолы, у шпакоў з'явяцца птушаняты, а я буду верыць у светлую часіну, калі словы «рамонкі», «ажыны» і «шпакі» пачую з вуснаў маёй краіны.

# «Раз яшчэ зайграю…»

**Францішак Багушэвіч першым выразна і лаканічна зафіксаваў пачатак беларускага нацыянальнага самаўсведамлення. Хто ведае, ці існавала б незалежная Беларусь без такіх хрэстаматыйных на сёння роздумаў пра беларускую гісторыю і мову. Але ў жыцці Францішак Багушэвіч быў не толькі бадзёрым "мужыцкім адвакатам", але і чулым, меланхалічным, часта стомленым чалавекам…**

## ТУЖЛІВЫЯ РАДКІ

Францішак Багушэвіч быў чалавекам журботным і жалосным. У адным з лістоў ён скардзіўся: «Божа, дай вытрымку і надалей! Але накіруй зло на сухія лясы! Мабыць, ніхто з такой кепскай мінай не глядзіць на прайшоўшыя гады, як я, які гэтулькі страціў іх без следу: прамываў цукар у вадзе ўвесь час, як дурны. Калі б ведаў, што хоць адзін год цалкам будзе такі, якіх было шмат, — не чакаў бы!». Гэта скарга сталага чалавека, які засмучана канстатуе марнасць пражытых гадоў і ўсё ж спадзяецца на лепшае, як той цукар, шчодра растварылася ў паэтычных радках Мацея Бурачка:

*Ох, цяжкая ж доля!*
*От так бы, здаецца,*
*Скрозь зямлю прапаў бы б*
*ці ў слёзы б разліўся!*
*Ці мне жыць на свеце,*
*ці мне куды дзецца?*
*Ой, Божа ж мой, Божа,*
*нашто ж я радзіўся?! («Праўда»)*

З біяграфіі пісьменніка вядома, што ў маладосці жыццё яго не песціла ды і ў сталасці не было мёдам. Зрэшты, яму пашчасціла сябраваць з Янам Карловічам і славутай Элізай Ажэшкай, якая пісала ў адным з лістоў: «Быў у мяне нядаўна пан Б[агушэвіч] і чытаў мне казку, доўгую, поўную фантазіі, якую напісаў па-беларуску. Гэта прыгожы талент. Польскія вершы яго слабыя, але беларускія, на мой погляд, выдатныя». Аднак, на жаль, пры жыцці паэт застаўся малапрызнаным сучаснікамі, да якіх напрыканцы сваёй зямной дарогі адрасаваў наступныя тужлівыя радкі:

*Вецер дзьме і вые,*
*Што аж мыслі рвуцца,*
*Змоўклі песні тые,*
*Што іграў на дуды.*
*Раз яшчэ зайграю*
*У астатній хвілі*
*Для тых, што жаль маю,*
*Што мяне забылі…*

З хворым сэрцам і ныркамі ён ціха і самотна адышоў у іншы свет у Кушлянах, забыты многімі сябрамі і прыяцелямі, той-сёй з якіх, праўда, парупіўся выступіць з некралогам. Дзякуй і за гэта.

## НЕ ЎСЁ «ЛЕПШАЕ»!

Не вельмі ўдала склаўся і лёс творчай спадчыны аўтара «Дудкі беларускай». Падрыхтаваныя ім да друку рукапісы паэтычнага і празаічнага зборнікаў «Скрыпка беларуская» і «Беларускія расказы Бурачка» згубіліся, трэба думаць, праз варожае стаўленне да беларушчыны нашчадкаў пісьменніка. Так, паводле Антона Луцкевіча, «сын паэта, Тамаш, (…) ненавідзеў усё беларускае і аб бацьку гаварыць не хацеў; дачка (…) адмаўлялася даць якія-колечы інфармацыі аб бацьку». Я не прыхільнік выключна дагодлівых радкоў да юбілеяў, таму адзначу, што Багушэвіч не здолеў выхаваць у сваіх дзяцей паважлівых адносінаў да ўласнай літаратурнай справы.

Не пазбег сумных перыпетый і працэс рэцэпцыі Багушэвічавай творчасці ў ХХ стагоддзі. Пачалося з таго, што ў 1903 годзе Яўхім Карскі абвінаваціў пісьменніка ў сепаратызме і імкненні аслабіць рускі свет. Аднак ужо ў нашаніўскі перыяд дамінавалі іншыя ацэнкі. Увогуле, у першай трэці стагоддзя зборнікі «Дудка беларуская» і «Смык беларускі» актыўна і неаднойчы перавыдаваліся ў розных гарадах, а Максім Гарэцкі справядліва пісаў у «Гісторыі беларускае літаратуры» пра іх аўтара: «ён — наш першы нацыянальны паэт у поўным значэнні гэтага слова». Але надышоў пякельны 1937 год, калі, паводле загада Галоўліта БССР, віленскія, мінскія і ковенскія выданні багушэвічаўскіх зборнікаў, разам з сотнямі іншых «шкодных» кніг і брашур, было загадана канфіскаваць і знішчыць рэзальнымі машынамі або спаліць.



Малюнак Алесі Ісы

> *У першай трэці стагоддзя зборнікі Багушэвіча актыўна перавыдаваліся ў розных гарадах, а Максім Гарэцкі справядліва пісаў у «Гісторыі беларускае літаратуры» пра іх аўтара: «ён — наш першы нацыянальны паэт у поўным значэнні гэтага слова». Але надышоў пякельны 1937 год, калі, паводле загада Галоўліта БССР, віленскія, мінскія і ковенскія выданні багушэвічаўскіх зборнікаў, разам з сотнямі іншых «шкодных» кніг і брашур, было загадана канфіскаваць і знішчыць рэзальнымі машынамі або спаліць.*

Пачынаючы з 1940 года на працягу паўстагоддзя ў краіне пераможнага сацыялізму суайчыннікі паэта маглі знаёміцца толькі з «усечанай» часткай яго творчай спадчыны, якая выдавалася ў выглядзе «Выбраных твораў» у 1940, 1946, 1952 і 1967 гадах. Пры гэтым, як правіла, не толькі сцвярджалася сакраментальнае «ўсё лепшае», але і згадваліся так званыя памылкі. Скажам, у прадмове да выдання 1952 года канстатавалася: «Вобраз пісьменніка, які паўстае з яго творчасці, — гэта вобраз сялянскага дэмакрата, змагара за долю народную, у светапоглядзе якога часам спалучаліся рысы перадавой ідэалогіі з рысамі адсталымі і рэакцыйнымі, але творчасць якога, узятая ў цэлым, адыграла значную ролю ў справе абуджэння народнага самаўсведамлення». Па волі ідэалагічна вытрыманага ўкладальніка ў катэгорыю «не лепшага» трапілі па чатыры вершы з кожнага зборніка паэта: «Дудка беларуская» — «Здарэнне», «Немец», «Падарожныя жыды», «Хрэсьбіны Мацюка», «Смык беларускі» — «Жыдок», «Панскае ігрышча (Юркі)», «Адказ Юрцы на Панскае ігрышча» і «Свая зямля». Адзначым, што ў большасці гэтых вершаў спецыфічна адлюстраваны міжнацыянальныя ўзаемаадносіны. Так, у вершы «Немец» закранаюцца рэальныя праблемы сацыяльных пераўтварэнняў у беларускай вёсцы. Адлюстроўваецца і сістэма этнічных стэрэатыпаў, звязаная з негатыўным стаўленнем тутэйшых сялян (мужыкоў-беларусаў) не столькі да мясцовых паноў, колькі да прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей — жыдоў, немцаў і рускіх. Вось як гэтае пытанне вырашаецца ў творы:

*Здаецца б, нічога?*
*Калі хто не ведае,*
*Але пачакаўшы,*
*дык выйшла камедыя.*
*Жыд купіў у месце*
*сабе камяніцу,*
*Глядзім — і наш рускі*
*кінуўсь за граніцу:*
*Пакінуў і жонку, адрокся і дзеці;*
*З'явіўся пан новы*
*(гэта ўжо трэці)…*
*А які б то пан той?..*
*Ну, ці хто павера?..*
*Гэты ж самы немец!*
*Каб яго халера!*
*От цяпер згадай ты —*
*хто кім калі стане?*
*Аб пану ні весці, ні слыху,*
*ні звання,*
*Жыд панам зрабіўся, немец*
*яшчэ большы,*
*А мужык быў голы, цяпер*
*яшчэ гольшы!*

Пісьменнік не ідэалізаваў мясцовае сялянства і крытычна глядзеў на сацыяльнае дамінаванне ў тагачаснай Беларусі прадстаўнікоў розных некарэнных нацыянальнасцей. Багушэвіч не заплюшчваў вочы на этнічна-сацыяльныя супярэчнасці, напрыклад, на антысеміцкія норавы і звычаі. У культурным плане ён перадусім выступаў за развіццё беларускай мовы і літаратуры. Гэта павінна было не толькі служыць «справе абуджэння народнага самаўсведамлення», але і спрыяюць росту нацыянальнай самасвядомасці.

У савецкі перыяд менавіта гэты нацыянальны аспект (і справа тут не ў антысемітызме!) падлягаў ідэалагічнай карэкціроўцы ў творчасці Багушэвіча. Тады быў запатрабаваны народны трыбун, мужыцкі адвакат, выкрывальнік сацыяльнай несправядлівасці, але зусім не нацыянальны паэт. Цікава, што ў адным з лістоў, крытыкуючы дзейнасць банкаў, Багушэвіч пісаў: «Гэта звычайная праява камунізму, а можа, нават усяго сацыялізму, гэткае свайго роду самоуправство!». Як можна заўважыць, сацыялізм, па меркаванні Багушэвіча, быў генетычна звязаны з «самоуправством». Нібы горкае прадбачанне сёння ўспрымаецца такая ацэнка ў супастаўленні з практыкай выдання творчай спадчыны пісьменніка пасля 1937 года.

## СТВАРАЛЬНІК МІФА

Дзякуючы айчынным літаратуразнаўцам, у 1950-я гады Багушэвіча «прызначылі» пачынальнікам крытычнага рэалізму ў нашай літаратуры, у 1960-я прызналі за ім аўтарства апавядання «Траляляёначка» і істотна павысілі яго грамадзянскі статус: з сялянскага дэмакрата да дэмакрата рэвалюцыйнага. Былі свае здабыткі і ў наступныя дзесяцігоддзі: з канца 1980-х гадоў творы Багушэвіча пачалі друкавацца без цэнзурных абмежаванняў, у 1990 годзе пабачыла свет факсімільнае перавыданне «Дудкі беларускай», у 1992 — «Траляляёначкі»…

У незалежнай Беларусі імя Францішка Багушэвіча агульнавядомае, але яго заслугі перад нацыяй, на мой погляд, недаўшанаваныя. У Мінску ёсць плошча, якая носіць яго імя (знаходзіцца каля будынка музычнага тэатра), але дагэтуль няма помніка. Вядома, што напрыканцы жыцця Багушэвіч збіраўся напісаць беларускую п'есу для народнага тэатра, але намер рэалізаваць не паспеў. Таму цалкам лагічна, каб плошча ля музычнага тэатра насіла імя іншага пісьменніка — Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, драматурга і заснавальніка нацыянальнага тэатра. А імя Багушэвіча варта было б надаць якой вуліцы ў цэнтры сталіцы. Скажам, цяперашняй Карла Маркса, на якой размешчаны будынак філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.

Сімвалічна, што ў 1999 годзе на канферэнцыі ЮНЕСКА Сусветны дзень паэзіі было вырашана адзначаць 21 сакавіка. А гэта дзень нараджэння паэта Францішка Багушэвіча. Для пацвярджэння працытую фрагмент яго прыватнага ліста да даўняга сябра: «Дзень у дзень усё больш апаноўвае мяне смутак або «прыгнёт няўрымслівасці»; цяжка таксама тут, бачачы навакольнае жыццё, не захацець адвярнуцца на хвілінку; думаю, заўсёды глядзець на гэты пякельны змрок не менш цяжка, як на сонца, і прашу ўявіць чалавека, у якога перад вачыма ўвесь небасхіл, сонечным святлом зіхаціць далягляд, а вочы яго — без павек!». Хіба змог бы так напісаць чалавек без вобразнага паэтычнага светаадчування?..

У адпаведнай пастанове ЮНЕСКА запісана: «Паэзія можа стаць адказам на самыя вострыя і глыбокія духоўныя пытанні сучаснага чалавека — але для гэтага неабходна прыцягнуць да яе як мага больш шырокую грамадскую ўвагу». Паэзія Багушэвіча ў свой час і стала такім адказам для многіх яго сучаснікаў. Таму нязвыкла чытаць у кнізе цяперашняга мысляра дзіўныя закіды ў адрас аўтара «Дудкі беларускай» з легкадумным папрокам у тым, што ён нібыта стварыў надзвычай трывалы паэтычны міф Беларусі як прыдуманай краіны «гнілых хатак і дурных, як варона, мужыкоў». Але ж напісаць, напрыклад, «Мой чароўны беларускі край, // Бацькаўшчына светлая мая!» (У. Караткевіч) у часы Багушэвіча толькі на першы погляд уяўлялася магчымым. Насамрэч гэта было нерэальна, што пацвярджаецца і пафасам творчасці тонкага лірыка Янкі Лучыны, які ва ўнісон Мацею Бурачку сцвярджаў у вершы «Роднай старонцы»:

*Усё ў табе бедна. Часта заплача*
*Мужык-араты дзеля злой долі,*
*Цяжка працуючы.*
*Ён жа, аднача,*
*З табой расстацца*
*не жджэ ніколі.*
*І непрыглядную хату*
*з пажыткамі,*
*І поле скупое, выган без пашы*
*Мы, апранутыя*
*старымі світкамі,*
*Любім і цэнім — бо яны нашы.*

Таму не бачу ніякай віны Багушэвіча ў тым, што ён нібыта фатальна абмужычыў і звясковіў Беларусь. Пагадзіцеся, каб стварыць трывалы паэтычны міф, патрэбны немалы талент. У Багушэвіча ён несумненна быў. Выказаны боль за Беларусь стаўся яркім фактам нашай гісторыі і культуры. Перад вачыма Багушэвіча ў зменлівай смузе толькі пачынаў вымалёўвацца нацыянальны небасхіл, карціна якога мыслілася пісьменніку неабстрактна і толькі ў сувязі з народнымі памкненнямі і інстынктамі. Варта ніколі не забываць пра самотнага адваката, які яшчэ напрадвесні Адраджэння стаў нашым першым нацыянальным Паэтам.

**Ігар ЗАПРУДСКІ**

На паліцы

# Хронікі адной трагедыі

**Празаік Леанід Левановіч вядомы як аўтар эпічнага цыкла, які ўключае раманы «Шчыглы» (1986), «Паводка сярод зімы» (1989), «Дзікая ружа» (1993), «Сіняе лета» (2005), «Бесядзь цячэ ў акіян» (2007). Раман-хроніка «Палыновы вецер» — працяг цыкла, творы якога звязаны героямі і месцам дзеяння.**

Падзеі рамана-хронікі «Палыновы вецер» разгортваюцца ў Мінску і на малой радзіме аўтара — Касцюкоўшчыне, у маляўнічых вёсках і паселішчах, што раскінуліся па берагах празрыста-чыстай Бесядзі.

Твор гэты прысвечаны Чарнобыльскай трагедыі і аб'ёмна вымалёўвае жыццё беларусаў пасля аварыі на ЧАЭС. Як пісьменнік-рэаліст Л. Левановіч выяўляе маштабы бяды, якая абрынулася на Беларусь, калі тэхнагенная катастрофа парушыла адвечны лад жыцця людзей, нібы страшны смерч, сагнала вяскоўцаў з абжытых месцаў.

Таксама раман «Палыновы вецер» — глыбокае мастацкае асэнсаванне найважнейшых грамадска-палітычных падзей пераломнага часу. Л. Левановіч уважліва і ўсебакова прааналізаваў часы перабудовы, дэталёва разгледзеў акалічнасці абвяшчэння суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Вуснамі герояў пісьменнік даў ацэнку розным з'явам і грамадскім дзеячам, выказаў уласнае разуменне складанай логікі гістарычных працэсаў.

Аналізуючы перыяд перабудовы і галоснасці, які пачаўся з прыходам да ўлады Міхаіла Гарбачова, аўтар рамана-хронікі змог аб'ектыўна вытлумачыць вытокі грамадскага і эканамічнага крызісу СССР, прычыны яго тэхналагічнага адставання ад заходніх краін. Цалкам справядліва пісьменнік апеляваў да ранейшых часоў, паказваючы, як крок за крокам у краіне адбываўся захоп улады партыйнай бюракратыяй.

Да несумненных заслуг Л. Левановіча належыць мастацкае ўзнаўленне атмасферы грамадскіх дыскусій, якія сталіся сімвалам перабудовы і галоснасці. Ён з гумарам піша пра бясконцыя мітынгі, спрэчкі і сваркі, якія, на яго думку, прыносілі не шмат карысці: «Дый што ўшчуваць, калі ўся краіна засядае, усе вакол крычаць і сварацца, у чэргах на сходах, асабліва дыскутуюць у лазні, бо там усе голыя: не відаць ні пагонаў, ні ордэнаў, ні іншых рэгалій». Вуснамі герояў рамана аўтар даў трапныя ацэнкі дзейнасці дэпутатаў-дэмагогаў, якія прагнулі таннай папулярнасці.

Л. Левановіч імкнуўся да гістарычнай дакладнасці. Ён бліскуча выкарыстаў прыём мастацкай паліфаніі, які дазволіў раскрыць максімальна шырокі спектр меркаванняў і поглядаў, паказаць увесь дыяпазон грамадскай думкі, прадставіць розныя жыццёвыя філасофіі і палітычныя меркаванні. Так, вуснамі маладога партыйнага лідара Анатоля Раковіча аўтар раскрыў логіку і грамадскую пазіцыю тых людзей, якія выступалі супраць зменаў, заклікалі «навесці парадак», бо баяліся страціць прывілеі і ўласнае сацыяльнае становішча (пераважна прадстаўнікі партыйна-гаспадарчага актыву). Пісьменнік толькі зрэдку наўпрост дэкларуе ўласную грамадскую пазіцыю.

*Да несумненных заслуг Л. Левановіча належыць мастацкае ўзнаўленне атмасферы грамадскіх дыскусій, якія сталіся сімвалам перабудовы і галоснасці. Ён з гумарам піша пра бясконцыя мітынгі, спрэчкі і сваркі, якія, на яго думку, прыносілі не шмат карысці.*

Л. Левановіч відавочна вітаў усталяванне ў краіне дэмакратыі і станоўчыя грамадскія перамены. Яму вельмі блізкая пазіцыя маладога ляснічага Дзмітрыя Акуліча, які хоць і належаў да мясцовай «эліты», быў на баку Барыса Ельцына, што вёў барацьбу з путчыстамі. Вуснамі героя Бравусава аўтар асудзіў рэваншыстаў, паказаў прымітывізм рэакцыйных сіл, якія дбалі не пра агульнаграмадскія інтарэсы, а пра захаванне асабістай улады.

Аўтар аб'ектыўна раскрыў супярэчнасці часоў перабудовы, непаслядоўнасць Міхаіла Гарбачова, які абвясціў галоснасць і плюралізм думак, але зняў з пасады Б. Ельцына за крытычнае выступленне на Пленуме ЦК. Гістарычна дакладна Л. Левановіч распавёў пра пераломную падзею — падпісанне пагаднення аб ліквідацыі СССР і ўтварэнне Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Па словах аўтара рамана-хронікі, гэтая падзея пакрысе наспявала і была амаль непазбежнай. Невыпадкова большасць беларусаў пазітыўна ўспрыняла вестку аб распадзе імперыі. Пры гэтым аўтар рамана «Палыновы вецер» праўдзіва паказаў, што грамадска-палітычныя змены 1991 г. часам адмоўна паўплывалі на лёсы канкрэтных людзей: многія страцілі ідэалы, шмат спецыялістаў мусілі змяніць месца працы.

У рамане-хроніцы шмат адцягненых разважанняў і падагульненняў. Так, Л. Левановіч сфармуляваў сутнасць нацыянальнай ідэі, якая, на яго думку, павінна прадугледжваць дзяржаўны суверэнітэт, захаванне духоўна-культурнай самабытнасці і развіццё эканомікі дзеля паляпшэння дабрабыту людзей. Аўтар піша пра нязменнасць прыроды чалавека, яго спрадвечны інстынкт мець сваю гаспадарку, асабістую ўласнасць.

Бліскуча асвятліў працэс вяртання гістарычнай памяці і нацыянальнай свядомасці беларусаў. Праз вобраз Пятра Махавікова пісьменнік паказаў, як паступова ў сэрцах беларусаў ажывалі патрыятычныя пачуцці і як яны, пасля знаёмства з гістарычнымі працамі і выдатнымі помнікамі нацыянальнай




культуры, рабіліся змагарамі за вольную і незалежную Беларусь. Патрыятычныя пачуцці, паводле слушнага меркавання аўтара, — натуральная рыса культурнага і адукаванага чалавека.

Дарэчы, Л. Левановіч піша і пра вялікі агульнанацыянальны кніжны праект — «Памяць». Пісьменнік цалкам апраўдана лічыць кожны з выдадзеных тамоў «малой энцыклапедыяй раёна», бо ў іх сапраўды шырока падаюцца звесткі пра матэрыяльную культуру, прыроду, гісторыю і слаўтых землякоў.

Таксама Л. Левановіч сцвярджае неабходнасць пашырэння ў грамадстве беларускай мовы. Героі рамана — Андрэй Сахута, былы сакратар абкама, і Пётр Мамута, колішні настаўнік гісторыі, — разважаюць пра лёс роднага слова, яго ролю ва ўмацаванні нацыі і культурна-духоўным жыцці грамадства.

Пісьменнік паказаў не толькі лёсы людзей, але і іх унутраныя памкненні, жаданні, трывогі і радасці. Аўтар часта вытлумачае глыбінныя матывы паводзін і ўчынкаў герояў. Найбольш заглыбіўся Л. Левановіч ў псіхалогію Косці Вароніна — сына паліцэйскага, колішнягя брыгадзіра, які застрэліў свайго крыўдзіцеля Івана Сырадоева, а затым скончыў жыццё самагубствам.

Вельмі пераканаўча Л. Левановіч змог перадаць душэўны стан людзей, якія засталіся ў Чарнобыльскай зоне. Героі твора — Марына Сахута і яе муж Уладзімір Бравусаў, Пятро Мамута і яго жонка Юзя — насуперак бядзе працягваюць жыць, не губляюць аптымізму, працуюць і радуюцца кожнаму сонечнаму дню. Асаблівую ўвагу пісьменнік надае познаму каханню. Ён цудоўна паказаў, як шчырае пачуццё змяніла Марыну Сахуту, якая ўжо ні на што не спадзявалася, мяркуючы дажываць жаночы век у бацькоўскай хаце.

У рамане шмат народнага гумару і каларытнага смеху, цікавых выслоўяў і показак. Пісьменнік не абмінае камічных здарэнняў, шмат жартуе, яго героі часта распавядаюць дасціпныя анекдоты. На старонках твора багата цудоўных пейзажных замалёвак, апісанняў краявідаў маляўнічай Бесядзі. Пісьменнік захапляецца зімовымі і веснавымі пейзажамі, магутнасцю прыродных стыхій. Невыпадкова раман-хроніка завяршаецца гімнам Ветру, які мае сімволіка-алегарычны сэнс.

Раман-хроніка «Палыновы вецер» — буйная з'ява ў літаратурным жыцці, і яго гісторыка-асветніцкае значэнне з часам будзе толькі ўзрастаць.

**Іван САВЕРЧАНКА**




# Добры раман «Planktonus vulgaris»

Больш за два гады таму выйшла першая кніга маладога празаіка Кірыла Дубоўскага пад назвай «Добры раман», якая складалася з невялічкіх апавяданняў. Напрыканцы мінулага года аўтар прадставіў ужо сапраўды добры раман пад назвай «Planktonus vulgaris».

Новая кніга Кірыла Дубоўскага па аб'ёме хутчэй аповесць — крыху больш за сто старонак. Гэты невялікі твор распавядае пра неамбіцыйнага і непрыкметнага выпускніка эканамічнага ўніверсітэта Канстанціна Дарожкіна, які не мае аніякага ўяўлення пра тое, дзе хацеў бы працаваць, як далей будаваць жыццё. Яго заўжды цягнулі бацькі, якія тлумачылі, як трэба жыць, — і вось герой апынаецца ў цёмным закутку былой ветэрынарнай станцыі, падлічвае кошты вытворчасці алюмініевых дзвяраў і, здаецца, ніколі адтуль не зваліцца.

Хоць на першай старонцы аўтар нас папярэджвае, што ўсе падзеі і персанажы выдуманыя, а супадзенні выпадковыя, няма ніякіх сумненняў, што кніга аўтабіяграфічная, хіба крыху падшліфаваная. Атрымалася вельмі шчыра, нават інтымна.

Вартая ўвагі кампазіцыя твора — спалучэнне невялікіх частак-запісаў. Расповед вядзецца ад першай асобы, і ўражанне, што чытаеш калі не асабісты дзённік галоўнага героя, то яго блог у сеціве. Гэта надае аповесці своеасаблівую рытмічнасць, дадае дынамікі, так што часам твор пачынае нагадваць «Кампраміс» С. Даўлатава. Уплыў Сяргея Данатавіча на аўтара «Planktonus vulgaris» заўважны і па сінтаксісе: сказы кароткія, лаканічныя, дакладныя; падабенства ўзмацняецца філігранным пачуццём гумару аўтара.

Але нельга сказаць, што «Planktonus vulgaris» — толькі пра офіснае жыццё маладога спецыяліста. Канстанцін Дарожкін яшчэ і малады пісьменнік (чарговае пацвярджэнне — што не ўсе супадзенні ў творы выпадковыя), які перамагае ў розных конкурсах, мае публікацыі ў літаратурных часопісах і зборніках. У кампаніі з аднадумцамі, маладымі пісьменнікамі і паэтамі, галоўны герой адчувае: вось яно — сапраўднае жыццё, а не марнае існаванне ў пыльным офісе. Але вельмі хутка прыходзіць расчараванне, што жыць з літаратуры немагчыма, таму адзінае выйсце — змяніць адзін офіс на другі, з лепшымі ўмовамі.

Кніга атрымалася трагікамічнай. Толькі на першы погляд яна можа падасца сцэнарам для офіснага камедыйнага серыяла — насамрэч твор не пазбаўлены лірызму, асобныя яго фрагменты вельмі вытанчаныя і чулыя.

*Кніга атрымалася трагікамічнай. Толькі на першы погляд яна можа падасца сцэнарам для офіснага камедыйнага серыяла — насамрэч твор не пазбаўлены лірычнасці, асобныя яго фрагменты вельмі вытанчаныя і чулыя.*

Вядома, Кірыл Дубоўскі не адкрыў Амерыку і не замахнуўся на «Вайну і мір». «Planktonus vulgaris», магчыма, ніколі не стане класікай і наўрад ці возьме ўзнагароды на літаратурных конкурсах. Але калі вы хочаце якаснага, цікавага чытва, калі вам хочацца правесці вечар за кнігай і проста атрымаць асалоду ад чытання, то гэта — якраз тое, што трэба.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

Імпрэзы

# Скажы СВАЁ слова

Пад такім слоганам адзначылі пятае юбілейнае свята Дня роднай мовы ў Інстытуце журналістыкі БДУ. Распачалося яно гульнёй «Мова як умова. Хуткія размовы па-беларуску». 10 беларускамоўных студэнтаў і 10 студэнтаў, якія хацелі б папрактыкавацца ў беларускай мове, па дзве хвіліны абмяркоўвалі розныя тэмы: кіно, музыка, хатнія жывёлы, абмяркоўваліся і жартоўныя тэмы, напрыклад, мэтазгоднасць абцасаў у жаночым абутку. Нязмушаная атмасфера разнявольвала, ніхто не баяўся памылак.

Кожны мог прачытаць любімы верш беларускіх аўтараў на вечары беларускай паэзіі. Творы класікаў — Максіма Багдановіча, Яўгеніі Янішчыц, Максіма Танка, Рыгора Барадуліна, Пімена Панчанкі і многіх іншых — гучалі сярод ліхтарыкаў і шчырых усмешак. Першым на імправізаванай сцэне выступіў паэт і выкладчык Арцём Кавалеўскі, які прачытаў уласны твор; Аксана Бязлепкіна, адзін з арганізатараў Дня роднай мовы, агучыла верш Наталлі Кучмель.

Раніца наступнага дня на журфаку пачалася з абдымкаў і песень — так сустракалі студэнтаў і выкладчыкаў арганізатары свята, а затым пачаўся выкладчыцкі стэндап «Лад жыцця» — штогадовае мерапрыемства, на якім выкладчыкі па-беларуску распавядаюць пра сваё жыццё. Намеснік дэкана Ганна Курэйчык расказвала пра падарожжы ў экзатычныя краіны, а дырэктар Інстытута журналістыкі Сяргей Дубовік — пра службу ў Афганістане.

Доўгачаканая гульня «ПАРА-папарам», у якой удзельнічалі студэнты і выкладчыкі, прайшла весела: у кожным дуэце адзін з удзельнікаў тлумачыў словы, напісаныя на картках, другі адгадваў. Скончылася свята традыцыйнай вечарынай на пятым паверсе: студэнты спявалі і танчылі. Ганна Басава і Віктар Іўчанкаў узнагародзілі пераможцаў алімпіяды (арганізатар і ідэйны натхняльнік алімпіяды — Алеся Кузьмінова).

Выдатнае музычнае суправаджэнне забяспечыла капэла «Дзвіна», а прадстаўнікі студэнцкага этнаграфічнага таварыства вучылі беларускім народным танцам усіх ахвотных. Пасля карагоду спявалі з гасцямі вечарыны — гуртом «Martin S». Цёплая вечарына скончылася смачнай вячэрай: дранікі, смятана, квас — так па-беларуску!

Дзень роднай мовы — цудоўная магчымасць не толькі сказаць сваё слова, але і зрабіць вялікі крок да разумення, што быць беларусам — шчасце і гонар.

**Настасся ЖУХАРАВА**




Малюнак Алесі Ісы

# Вандроўка ў часе

Шмат новага можна спазнаць у падарожжах, як рэальных, так і ўяўных. Прычым атрымаць веды не толькі геаграфічныя, але і лінгвістычныя. Выправімся ў вандроўку з мэтай даведацца і запомніць, якія канчаткі характэрныя для назоўнікаў мужчынскага роду з агульным значэннем часу ў форме роднага склону адзіночнага ліку.

Перш чым некуды накіравацца, мы павінны ўсё спланаваць. Так, звычайна ад *панядзелка* да *чацвярга* ў нас вельмі шмат спраў. Увогуле будныя дні *тыдня* мы прысвячаем працы або вучобе, часта нават у цёплую пару года, найлепшы сезон для падарожжаў. Многія з нас любяць песціцца на сонцы у сярэдзіне *ліпеня*, а некаторым даспадобы прахалода *кастрычніка* або празрыстасць *лістапада*. Кожнаму сваё. Нам жа важна ведаць, з якімі канчаткамі ўжываць назоўнікі, што абазначаюць прамежкі часу.

Такім чынам, шмат было названа канкрэтных, пэўна акрэсленых прамежкаў часу: *панядзелак, чацвер, тыдзень, ліпень, кастрычнік, лістапад*. Варта запомніць, што для іх характэрны канчатак -а (-я) у родным склоне адзіночнага ліку. Тое ж датычна слоў *аўторак, семестр, дзень, год*. Значыць, ад *панядзелка* да *аўторка*, *чацвярга*, іншага *дня тыдня*; з *ліпеня*, *кастрычніка*, *лістапада* і г. д.

Вядома, вандроўка — справа не аднаго дня. Бывае, яна так захоплівае, што расцягваецца надоўга. Як тут вернешся, калі столькі цікавага яшчэ не спазнана?.. А на марскім пляжы ўвогуле можна забыцца пра ўсякія тэрміны.

Як вы заўважылі, мы пашырылі часавыя межы, і гаворка цяпер ідзе пра такія назоўнікі, як *перыяд, тэрмін, прамежак*. Яны не звязаныя з канкрэтным абмежаваннем, гэта больш агульныя словы, чым, напрыклад, *дзень* або *год*. Таму ў родным склоне адзіночнага ліку ім уласцівы канчатак -у. Значыць, *няма тэрміну, перыяду, прамежку* і, урэшце, *часу*.

**Вераніка БАНДАРОВІЧ**

# Што такое МАЛДРЫК?

**Слова «падручнік» ў многіх выклікае сум. Чаму? Складаная мова, штампы і незнаёмыя тэрміны, дробны шрыфт, невыразныя ілюстрацыі… Аўтары кнігі, пра якую пойдзе гаворка, знайшлі іншы падыход. Вучэбна-метадычны дапаможнік з электронным дадаткам «Слова — тэкст — камунікацыя», які выйшаў у «Выдавецкім цэнтры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта», такой сур'ёзнай назвай насцярожвае, але варта яго адкрыць... Ідэальна падыходзіць не толькі замежным студэнтам-філолагам, але і ўсім, хто хоча глыбей пазнаёміцца з беларускай мовай.**

Аўтары — Ганна Басава, Людміла Сінькова, Вольга Барысенка — плённа працуюць у сферы філалагічных навук, выкладаюць ва ўніверсітэтах, займаюцца ўласнымі даследаваннямі. Інфармацыя, размешчаная ў кнізе, атрымалася простай і лаканічнай і разам з тым насычанай. У аснове працы — лінгвакультуралагічны падыход, гэта значыць, што навучэнцы і чытачы знаёміцца з беларускай мовай праз спасціжэнне культуры, традыцый і гісторыі народа, у тым ліку яго менталітэту. Мова разглядаецца не як закрытая сістэма гукаў і слоў, а шматфункцыянальная з'ява ў грамадстве, ад заканамернасцей развіцця якой залежыць існаванне беларускага соцыуму. «Каб уступіць у зносіны, недастаткова ведаць мову — неабходна разумець, як ёю карыстацца ў пэўным сацыяльным кантэксце», — тлумачыцца ў прадмове.

Кніга падыдзе тым, хто ўжо ведае беларускую мову ці толькі пачынае з ёй знаёмства, але мае базавы мінімум валодання рускай мовай. Дапаможнік складаецца з сямі раздзелаў, насычаных тэкстамі для чытання і заданнямі для праверкі засвоеных ведаў. Тут, напрыклад, можна даведацца пра Францыска Скарыну і гісторыю ўзнікнення яго партрэта ў «Зале сарака» Падуанскага ўніверсітэта, Эльжбету Тамашэўскую-Радзівіл — дачку апошняга гаспадара Нясвіжскага палаца.

У адным з артыкулаў аналізуецца і раскрываецца характар беларусаў, гісторыя фарміравання народнага менталітэту ажно ад VIII — X стагоддзяў. Аўтары тлумачаць, як з'явілася беларуская нацыя, якіх вераванняў прытрымліваліся продкі беларусаў.




Асобны раздзел прысвечаны нацыянальнай беларускай кухні. Тут можна знайсці экзатычныя рэцэпты старадаўняга каралеўскага супу, калдуноў графа Тышкевіча і бабкі. Аўтары сцвярджаюць, што ў беларусаў вельмі багатыя гастранамічныя традыцыі, і ў пацвярджэнне прыводзяць звесткі пра тое, як харчаваліся людзі, што жылі на нашых землях 26 тысяч гадоў таму. Так, можна даведацца, што агульнага паміж крупнікам і глінтвейнам, чаму дзеці так любілі пражаны хлеб, дзе рабілі «жур», як з саладкага малака атрымлівалі малдрык і што гэта такое.

Россып каларытных слоў, вынесеных асобна, дапамагае арыентавацца ў сказах. Ці ўсе ведаюць, што такое, напрыклад, відэлец, сподак, сурвэтка, філіжанка ці кілішак? Дарэчы, тэматычныя слоўнікі прыводзяцца на пачатку кожнай тэмы, што дапамагае навучэнцам кожны раз пашыраць слоўнікавы запас. Словы даюцца на беларускай мове з рускім і англійскім перакладам.

Дзякуючы кнізе, чытачы абавязкова навучацца падпісваць віншавальныя паштоўкі па-беларуску, гутарыць з прадаўцамі ў краме, афіцыянтамі ў кавярні ці мінакамі на вуліцы. Цікавыя матэрыялы, прысвечаныя камедыі Янкі Купалы «Паўлінка» і традыцыйнаму міжнароднаму Мінскаму кінафестывалю «Лістапад». Можна нават прайсціся па Мінску з экскурсіяй, даведаўшыся пра галоўныя плошчы горада — ад Прывакзальнай да Якуба Коласа.

Асаблівую ўвагу звяртае на сябе тэкст «Слэнгавыя назвы папулярных мясцін Мінска», зроблены у студэнцкай аўдыторыі, дзе высвятляецца, што падштурхоўвае моладзь да слоўатворчасці і як патлумачыць выразы накшталт «кукурузы», «макдаку», «сухароў», «асліных вушэй» і «панікоўкі».

Такім чынам, кніга «Слова — тэкст — камунікацыя» дапаможа даволі хутка і з цікавасцю папоўніць лексічны запас. Дзякуючы дыску, які прыкладаецца да выдання, інфармацыю на засваенне можна адначасова чытаць і слухаць.

Таксама ў кнізе ёсць дадатак пад назвай «Як загаварыць па-беларуску? (10 простых парад з курсаў «Мова нанова»). Аўтары прапануюць пазбавіцца страху памыліцца і запомніць, што сёння беларуская мова — гэта мова культуры і інтэлігенцыі.

Крыніцы літаратуры розныя: даследаванні беларускага светапогляду, гістарычныя артыкулы пра мінулае, энцыклапедыі, даведнікі, слоўнікі, вучэбныя дапаможнікі, навуковая літаратура і электронныя рэсурсы, тэксты мастацкай літаратуры, публіцыстычныя артыкулы. Асобна вылучаюцца беларуская фразеалагізмы, прыказкі і прымаўкі.

Маўленчы практыкум з заданнямі — абавязковая частка кожнага раздзела. Аўтары прапануюць навучэнцам утварыць ступені параўнання прыметнікаў ці зваротныя формы дзеясловаў, адказаць на пытанні па змесце артыкулаў, растлумачыць значэнне складаных слоў, дапісаць сінанімічныя радкі, праслухаць дыялогі, перакласці сказы, падабраць аднакарэнныя словы. Важныя правілы выносяцца асобна пад рубрыкай «Запомніце» ці «Звярніце ўвагу» ў чырвонай рамачцы. Гарманічна дапаўняюць успрыманне зместу цікавыя фотаздымкі і малюнкі.

**Марыя ВОЙЦІК**

*Унікальны праект*

# Навіны фалькларыстычных даследаванняў

**Навуковыя выданні Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы, філіяла Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, бясспрэчна, займаюць вядучую пазіцыю ў айчыннай фалькларыстыцы. Чарговым пацвярджэннем гэтаму з'яўляецца другі выпуск зборніка навуковых работ «Беларускі фальклор: матэрыялы і даследаванні», што пабачыў свет у Выдавецкім доме «Беларуская навука». Увогуле, матэрыялы выдання ў першую чаргу скіраваныя на з'яўленне дыскусіі паміж даследчыкамі нематэрыяльнай культурнай спадчыны Беларусі, падчас якой верыфікуюцца і вывяраюцца вынікі навуковых фалькларыстычных даследаванняў.**

Сёння ў нашай краіне і за яе межамі выходзіць фалькларыстычная літаратура рознай якасці падрыхтоўкі, якая часам можа стварыць у чытача скажонае ўяўленне пра беларускую традыцыю і народную культуру ў цэлым. Другі выпуск «Беларускага фальклору» змяшчае актуальныя і іканічныя навуковыя артыкулы, унікальныя запісы, якія захоўваюцца ў архіве аддзела фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, а таксама сучасныя палявыя запісы з прыватных архіваў.

Адзін з артыкулаў, што ўвайшлі ў зборнік, прысвечаны праблематыцы даследавання функцыі, паэтыкі і семантыкі абраду ваджэння Куста ад мінуўшчыны да нашых дзён. Так, Вольга Шарая разглядае пытанні гісторыі вывучэння абраду ў XIX — XX стст., а таксама сучасныя праблемы яго даследавання. Заслугоўвае ўвагі артыкул літоўскай даследчыцы Ніёле Лаўрынкене «Літоўская багіня Круміне і яе адлюстраванні ў славянскіх традыцыях», у якім пры характарыстыцы багіні аўтарка апелюе да беларускага матэрыялу, і менавіта да абраду ваджэння Куста.

Значны і цікавы блок зборніка складаюць даследаванні, разгорнутыя ў рэчышчы стварэння «Беларускага фальклорна-этналінгвістычнага атласа». Алена Боганева даследуе беларускія версіі легенды пра колас. Аляксандра Шрубок аналізуе атрыбутыўны, акцыянальны і вербальны коды абраду першага выгану жывёлы ў поле на Юр'я ў кантэксце каляндарнай і аказіянальнай звычаёвасці беларусаў. Абодва матэрыялы праілюстраваныя картамі з размеркаванымі асобнымі абрадавымі элементамі і структурамі ў фальклорна-этнаграфічных зонах Беларусі.

У рубрыцы «Фальклор беларусаў замежжа» даследчыца Таццяна Цяпкова прыводзіць паказальныя матэрыялы палявых запісаў пераважна вясельнага і каляндарнага фальклору, зробленыя на памежжы Віцебшчыны і Пскоўшчыны. Тут цікава прасачыць рысы ўзаемадзеяння дзвюх традыцый. Вынікі палявой экспедыцыі, праведзенай у 2010 годзе на тэрыторыі Віленскага раёна Літвы, прадстаўляе Юрый Внуковіч. У вёсках, дзе праходзіла экспедыцыя, пражывае ў асноўным беларускамоўнае насельніцтва. У публікацыі ўздымаюцца пытанні этнічнай самаідэнтыфікацыі, канфесійнай прыналежнасці, што можа зацікавіць у першую чаргу даследчыкаў гэтага шматнацыянальнага памежнага рэгіёна.

Раздзел, прысвечаны матэрыялам палявых экспедыцый, дае чытачу магчымасць самастойна прааналізаваць тэксты песень, замоў і быліčак. Так, у падборцы вядомага фалькларыста Генадзя Лапаціна прадстаўленыя ўяўленні пра вядзьмарства ў стараабрадніцкай і традыцыйнай культуры Веткаўшчыны. Адметнае месца ў дадзеным раздзеле займае публікацыя запісаў песеннага фальклору Мёршчыны, зробленых у 1960-я гады беларускім паэтам, празаікам, публіцыстам Сяргеем Панізнікам. Унікальнасць запісаў абумоўлена яшчэ і тым, што дагэтуль большая частка матэрыялаў не была апублікавана ні ў якасці тэкставых расшыфровак, ні тым больш у нотнай транскрыпцыі. Пры канцы артыкула можна знайсці колькі нотных прыкладаў, а па некаторых прыведзеных тэкстах дасведчаны ў музычнай кампаненце спецыяліст па фальклоры можа вызначыць прыналежнасць да таго ці іншага тыпавога напеву. Але, улічваючы рарытэтнасць і вялікую каштоўнасць матэрыялу, варта было б падрыхтаваць асобнае выданне, прысвечанае фальклорнаму архіву Сяргея Сцяпанавіча, якое абавязкова змяшчала б этнафанічную транскрыпцыю, натацыю меладычнага малюнка і, самае важнае, мела аўдыядадатак. Пакуль для шырокага кола цікаўных ёсць магчымасць пачуць некаторыя з прыведзеных у матэрыяле песень на аўдыядыску «Пад ясну зарыцу» (2013), на якім прадстаўлена песенна-абрадавая традыцыя Мёршчыны.




Чытачам «Беларускага фальклору» выпадае магчымасць пазнаёміцца з працай незаслужана забытага навукоўца канца XIX — пачатку XX ст. Фёдара Кандратавіча Воўкава «Кармленне душ у беларусаў» з апісаннем памінальнага абраду на Дзяды. Праца друкавалася ажно ў 1896 годзе ў нямецкім часопісе Ur-Quel. Воўкаў — навукоўца з сусветным імем, якое можна было сустрэць у кожнай з найноўшых агульных прац па антрапалогіі, дагістарычнай археалогіі і этнаграфіі.

Таксама ў выпуску сабраныя пяць рэцэнзій, у якіх, акрамя прэзентацыі ўласна выданняў, уздымаюцца актуальныя пытанні і праблемы вывучэння і публікацыі фальклорных тэкстаў у XXI стагоддзі.

Завяршае выпуск рубрыка «Юбілеі», у якой з павагай і захапленнем падаюцца творчыя партрэты выбітных беларускіх навукоўцаў Ліі Салавей і Арсеня Ліса.

Адной з важных мэт дадзенага зборніка навуковых прац і артыкулаў бачыцца развіццё традыцыі аб'ектыўнага і нават завостранага рэцэнзавання. І, падаецца, рэдакцыйнай калегіі ўдала атрымалася сабраць вартыя ўвагі працы як вядомых, так і маладых, але перспектыўных даследчыкаў. І самае важнае — зафіксаваць і даць магчымасць асэнсаваць па першакрыніцах, колькі крупінак шматграннай і складанай сістэмы пад назвай «беларускі фальклор».

**Вячка КРАСУЛІН**

# Марцін Кухта: вядомы і невядомы

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

І сапраўды, асоба выдаўца, так добра запісанага ў гісторыю беларускага пісьменства, застаецца абсалютна невядомай. Пэўную сімвалічную блізкасць заўважыў Алесь Суша паміж постацямі Марціна Кухты і Францыска Скарыны. Наш славуты зямляк у Вільні разам з беларускім запачаткаваў літоўскае кнігавыданне, а праз 400 гадоў літовец Кухта ў гэтым жа горадзе сваёй працай спрыяў развіццю кніжнай і нацыянальнай культуры беларусаў. Большасць кніг, што выходзілі ў друкарні Кухты, былі на літоўскай, польскай мовах, але і беларусы ведаюць яго як выдаўца знакамітай газеты «Наша Ніва», кніг Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, календароў, сельскагаспадарчых і навучальных кніг.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літвы ў Беларусі Эвалдас Ігнатавічус заўважыў:

— У кнігах выдавецтва Марціна Кухты, творах выдатных беларускіх, польскіх, украінскіх аўтараў, якія ён друкаваў, было сімвалічна адноўленае Вялікае Княства Літоўскае. Гэта была вясна народаў і час росквіту культур. Думаецца, выстаўка, прадстаўленая ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, — вельмі каштоўная і цікавая сёння з пункту гледжання ўстанаўлення новых культурных сувязей паміж краінамі і народамі. Спадзяюся, гэтая экспазіцыя будзе прадстаўленая і ў Літве, а сама асоба Марціна Кухты вернецца ў агульную памяць.

Магчыма, адным з крокаў да вяртання памяці пра выдатнага выдаўца стане «Балада Марціна Кухты», якую не так даўно напісаў, а падчас імпрэзы прачытаў паэт, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп. Віктар Анатольевіч заўважыў, што «Мастацкую літаратуру» можна лічыць пэўнага кшталту прадаўжальнікамі традыцый Кухты: тут працягваюць выходзіць кнігі класікаў, якія праз стагоддзе могуць стаць сапраўднымі сведкамі памяці пра эпоху.

Лёс выдаўца Марціна Кухты да нядаўняга часу быў практычна невядомы: навукоўцы вагаліся нават у вызначэнні дакладнай даты яго смерці. Было вядома, што ў гады Першай сусветнай вайны друкарня М. Кухты працягвала працаваць. Тут да жніўня 1915 года выдавалася газета «Наша Ніва», а пасля акупацыі Вільні немцамі выходзілі газета «Гоман» і часопіс «Крывічанін». У 1918 годзе пасля публікацыі Акта незалежнасці Літвы друкар быў арыштаваны акупацыйнымі ўладамі, а яго тыпаграфія разгромленая. У 1924 годзе М. Кухта пераехаў у Каўнас, дзе выдаваў кнігі і календары да 1934 года.

Загадчык Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Марына Запартыка распавяла:

— Для нас, супрацоўнікаў музея, асоба Марціна Кухты вельмі містычная. Дакладнай інфармацыі пра яго да апошняга часу практычна не было. Так, усе ведаюць верш Багдановіча, дзе гучыць яго імя. Але сталася так, што менавіта пасля адкрыцця выстаўкі ў музеі М. Багдановіча, прысвечанай 100-годдзю выхаду зборніка «Вянок», проста пасыпаліся новыя факты пра выдаўца. Стаў вядомы яго фотаздымак, апублікаваны на сайце бібліятэкі імя Урублеўскіх у Вільні; пасля мы выпадкова вызначылі дакладную дату смерці Кухты. Меркавалася, што ён памёр у 1941 ці 1942 годзе. Але стала вядома, што адбылося гэта ў 1956-м. Не такі далёкі ад нас час, шкада, што даследчыкі раней не валодалі такой інфармацыяй, бо маглі атрымаць шмат карысных звестак ад першакрыніцы. Марцін Кухта спрыяў развіццю беларускага кнігадрукавання, вельмі часта ішоў насустрач, чакаў, калі ў аўтара з'явяцца грошы, каб разлічыцца за выданне.

Спадзяюся, нас чакае адкрыццё новых сакрэтаў лёсу знакамітага віленскага выдаўца Марціна Кухты, а значыць, стане вядома больш фактаў пра адметнасці развіцця беларускай кніжнай культуры ў пачатку XX ст.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Гісторыі з малюнкамі

**Кажуць, таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім. Гэта амаль аксіёма. Вісарыён Гарбук, пісьменнік, заслужаны работнік культуры БССР, быў нядрэнным мастаком-партрэтыстам.**




## ПАМІЖ РУІНАЎ

Захапленне жывапісам пачалося ў дзесяцігадовым узросце, калі пасля смерці бацькі хлопчыка разам з маці забралі да сябе настаўнікі Дварэцкай пачатковай школы Прохар і Іосіф Ключонкі, яго дзядзькі. У іх была добрая бібліятэка, і хлопчык з захапленнем гартаў шыкоўныя выданні ілюстраванай гісторыі старажытных Грэцыі і Рыма, альбомы па мастацтве.

Падчас вучобы ў Лепельскім педтэхнікуме Вісарыён гадзінамі разглядваў рэпрадукцыі карцін вядомых мастакоў, сам спрабаваў рабіць копіі з партрэтаў. Яго захапляла ўменне майстроў некалькімі штрыхамі алоўка перадаць характар і настрой чалавека.

У гады вайны сярод руін разбураных дамоў Вісарыён Гарбук знаходзіў асобныя лісты з кніг па мастацтве і збіраў іх у адмысловую папку. Так з часам склалася нядрэнная падборка шэдэўраў міравога жывапісу. Як будаўнік і рэкагнасцыроўшчык Гарбук часта рабіў

*«У гады вайны сярод руін разбураных дамоў Вісарыён Гарбук знаходзіў асобныя лісты з кніг па мастацтве і збіраў іх у адмысловую папку. Так з часам склалася нядрэнная падборка шэдэўраў міравога жывапісу.*

чарцяжы абарончых збудаванняў. Алоўак і паперы былі заўсёды пад рукой. Грэх было не зрабіць эскізы партрэтаў баявых сяброў.

Пасля вайны поліартрыт на доўгія гады прыкаваў пісьменніка да бальнічнага ложка. Ён развучыўся хадзіць, рукі не маглі ўтрымаць алоўка. Шляхам титанічных намаганняў і трэніровак Вісарыён Сцяпанавіч аднаўляў страчаныя навыкі. У тым ліку і ўменне маляваць. У фондзе 234 БДАМЛМ захоўваецца шэраг малюнкаў Гарбука, і ў кожнага — свая гісторыя.

## ПРА ШТО РАСКАЗВАЮЦЬ ЛІСТЫ

Вось партрэт Мікалая Ігнацьевіча Татура. Пра гэтага чалавека Вісарыён Сцяпанавіч згадвае ў сваіх пасляваенных дзённіках: «1 студзеня 1965 года. Нечаканая радасць. Мікалай Ігнацьевіч Татур паведамляе, што ў Мінску ўжо ў гэтым годзе перавыдаецца мая «Аллочка-забывалочка» на рускай мове. Прыемна, што магу даць новую, больш мастацкую рэдакцыю двум апавяданням і, магчыма, напішу яшчэ адно».

Нагадаю шаноўным чытачам, што Вісарыён Гарбук вучыўся ў адным класе Чашніцкай сямігадовай школы сялянскай моладзі з будучым пісьменнікам Рыгорам Рэлесам. Яны сябравалі, а пасля вайны абменьваліся лістамі. У фондзе 234 БДАМЛМ захоўваюцца 42 лісты Рэлеса да Гарбука. Вось адзін з іх:

«Братка Вісарыён!

Даўно ўжо не было ад цябе вестак, і мы ўстрывожыліся. Таму не адкладвай у доўгую скрыню і напішы, як здароўе тваё і Людмілы? Што новага напісаў? Што выдаецца?

У нас асаблівых навін няма. Зіму перажылі, насталі сонечныя веснавыя дні, а для людзей нашага ўзросту ад надвор'я шмат чаго залежыць. І нават больш, чым шмат. Я ўжо не магу ўлетку раз'язджаць, як раней. Узрост




нікога не шкадуе. Аднак летам будзем старацца жыць недзе на ўлонні прыроды.

У мяне ў 1979 годзе выйдзе кніга апавяданняў «Под каждой крышей». Яна ўжо ёсць у плане. Пішу вершы. Больш нічым не займаюся. Ад Каплана даўно не было вестачак. Але па чутках ён яшчэ працуе, на пенсію пакуль што не збіраецца. З Чашнік лістоў няма. Нядаўна там быў наш зямляк Лука Сядура. Расказвае, што гарадок пакрысе разрастаецца. Аказваецца, касманаўт Раманенка, які лётаў разам з Грэчка, нарадзіўся ў Ленінградзе, але яго бацькі чашнічане. Там да гэтага часу жыве яго цётка. Так расказвае Сядура. Ён кажа, што яго бацькі вучыліся ў Чашніках. Асабіста я таких не помню. І гэта не дзіўна, бо шмат гадоў прайшло. Можа, ты памятаеш? У цябе ж памяць лепшая, чым у мяне.

Напішы, ці аформіў ты дакументы для пісьменніцкага білета? Мяне нядаўна выклікалі па гэтым пытанні. Сфатаграфавалі і далі запоўніць анкету. У Саюзе пісьменнікаў бываю рэдка.

Сардэчнае прывітанне Людміле.

Паліна вам жадае таго ж самага.

Рыгор Рэлес. 30. III. 78».

Лёс падарыў Вісарыёну Гарбуку сустрэчу са старым сябрам падчас прыезду ў Каралішчавічы ў жніўні 1966 года. Тады і быў зроблены малюнак.

## ЧУЖЫЯ СТРАШНЫЯ ЎСПАМІНЫ...

Гледзячы на партрэт Піліпа Пестрака, я ўспамінаю запіс у дзённіку Кузьмы Чорнага ад 3 кастрычніка 1944 года: «Аўторак. У нядзелю ўвечары Пестрак

*«Поліартрыт на доўгія гады прыкаваў пісьменніка да бальнічнага ложка. Ён развучыўся хадзіць, рукі не маглі ўтрымаць алоўка.*

расказваў Лужаніну, як яго мучылі ў польскай турме. Алоўкі паміж пальцаў, пампавалі ваду праз нос, білі гумавым кіем, замыкалі рукі ў кайданы. Я слухаў. Пестрак умее цікава расказваць. У яжоўскай турме ў Менску ўвосень мяне саджалі на кол, білі вялікім жалезным ключом па галаве і палівалі збітае месца халоднай вадой, паднімалі і кідалі на рэйку, білі паленам па голым жываце, устаўлялі ў вушы папяровыя трубы і раўлі ў іх на ўсё горла, уганялі ў камеру з пацукамі, але рук у кайданы не замыкалі».

Малюнак Пестрака зроблены ў Каралішчавічах падчас прыезду Гарбука ў родную Беларусь у жніўні 1969 года. Якіх маральных і фізічных намаганняў каштаваў пісьменніку, інваліду першай групы, гэты візіт, можна толькі здагадвацца. І каб не яго добры анёл — жонка Людміла Пракоф'еўна, якая перавозіла мужа ў інвалідным крэсле, — гэтай знакавай для Вісарыёна Сцяпанавіча вандроўкі магло б і не адбыцца…

## ...І СВАЕ

Гарбуку заўсёды былі цікавыя людзі і асобы, якіх лёс выпрабоўваў на загартаванасць. Бо ён сам быў з катэгорыі такіх людзей. Вось што ён згадвае ў дзённіку:

«17. I. 65 — аўторак.

Сёння снілася Калыма і падрыхтоўка да майго расстрэлу. Пачуццё безнадзейнасці, недарэчнасці поўнасцю ава-




лодала мною. Нічога не было з сённяшняга жыцця. Памяць сну абрывалася на 1937 годзе. Не было нават страху, звычка перабіла яго.

У гэтым годзе Калыма снілася другі раз. Мае рацыю нечая думка: «Хто хаця б аднойчы пабываў у астрозе, той ніколі не выходзіць з яго». Асабліва гэта тычыцца сноў. […]

14. 7. 85 — нядзеля.

Памяць сну вярнула мяне ў 1937 год. Творча невычэрпная памяць!

Мяне арыштавалі. Як палітычна падазронага.

Я ў кабінеце следчага і яго памочніка. Яны складаюць спіс катаванняў, якія мяне чакаюць, калі я не прызнаю сябе вінаватым.

Супраць аднаго катавання я запярэчыў: «Я яго не вытрымаю! Вы што, не бачыце, у якім я стане?» «Добра, выкрэслі! — акінуўшы мяне позіркам, сказаў памочніку следчы. — Ён, насамрэч, не вытрымае…»




Прачнуўшыся, здзівіўся: мяне, цяперашняга інваліда, сон перанёс у кабінет следчага 1937 года.

Ніводнага з катаванняў, ні з зацверджаных, ні з выкрэсленых, прачнуўшыся, я не мог успомніць.

Але ўспомніўся расказ Уладзіміра Клішэвіча, з якім да дня арышту 25 красавіка 1936 года я вучыўся на літфаку Мінскага пединстытута. Потым мы з ім сустрэліся дзесяць год назад, калі ён па запрашэнні газеты «Голас Радзімы» прыехаў як паэт з Амерыкі лячыцца ў Кіславодску.

Яго арыштавалі ў 37-ым, калі лютавалі катаванні. І ў перапоўненую камеру, дзе ён быў, трапіў старшыня Дзяржынскага райвыканкама. Дзяржынскі раён быў апалячаным раёнам Беларусі. Гэта афішыравалі. А потым, у 37-ым, усе палякі трапілі ў чорны спіс, і іх арыштоўвалі за «падазрэнне ў здрадзе радзіме».

Старшыню пасадзілі на табурэтку, з сядзення якой тырчэлі вострыя цвікі. Пасля першага катавання ён яшчэ прыйшоў у камеру без дапамогі. Пасля другой пасадкі на табурэт у камеру яго прыцягнулі. Ад яго ўжо ішоў нясцерпны пах распаду. Пасля трэцяга выкліку ён ужо не вярнуўся.

Успомніў гэты расказ Клішэвіча, многае іншае і больш не заснуў.

Толькі пасля світанку запэўніў сябе, што быў арыштаваны да загаду Сталіна катаваць арыштаваных, і ўжо таму шчаслівы, я заснуў».

## ЯШЧЭ АДЗІН ПАРТРЭТ

Партрэт Нічыпара Чарнушэвіча. І зноў цытата з дзённіка Вісарыёна Гарбука:

«14. XII. 64 — панядзелак.

Увесь тыдзень вельмі напружана працаваў, абнаўляю кнігу пра дзяцей, напісаў новага яшчэ столькі.

І пішацца лёгка. «Як з кашá пасыпалася!» — казаў Мікола Хведаровіч. Мусіць таму, што штодзённа вёў дзённік і думка не зленавалася, а рука не дэтрэніравалася.

Піша Мікола, што ў Нічыпара Чарнушэвіча рак лёгкіх і дні яго злічаны. І ён сам ведае, здагадаўся пра сваю хваробу, але не падае выгляду, бадзёрыцца.

Мужны чалавек Нічыпар! Перажыць дваццаць шэсць гадоў высылкі, знявагі за адну любоў да Радзімы і не спустошыць свайго сэрца, пачуццяў, думак, заставацца да апошніх хвілін жыцця такім чулым да блізкіх людзей…

Святы чалавек, крыштальнай чысціні. На такіх і трымаецца прагрэс».

Вось такія гісторыі прыгадаліся падчас прагляду малюнкаў Вісарыёна Гарбука.

**Аляксандр ВАШЧАНКА**

*Аўтар выказвае падзяку БДАМЛМ за прапанаваныя матэрыялы.*

*Аблічча*

# Дзе шлях, там і песня

**По восені 1981 года я з рэжысёрам Эдуардам Перагудам паехаў у Вільню да Зоські Верас, каб падрыхтаваць кінанарыс «Сустрэчы і ростані». Трэба было пастарацца, каб гучна адзначыць 90-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча.**



Фота Сяргея Панізніка

*Ніна Ватацы ў студыі тэлебачання на запісе перадачы, прымеркаванай да 90-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча.*

А крыху пазней мне, супрацоўніку рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм, было даручана запрасіць у студыю мінскіх гасцей для юбілейнай перадачы. Згадзіліся на нялёгкую працу пад зыркімі асвятляльнікамі толькі-толькі прызначаны на пасаду дырэктара Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Міхась Пазнякоў, знаны архівіст Віталь Скалабан і, скажам так, юны сябар нашага Саюза пісьменнікаў (з 1979 г.), бібліёграф з амаль паўвекавым стажам Ніна Барысаўна Ватацы. Кожны з іх перад мікрафонам і камерай шчодра падзяліўся ведамі пра класіка літаратуры з такім незвычайным лёсам, паказаў тэлеглядачу цікавыя матэрыялы.

У Ніны Барысаўны яшчэ ў 1961 годзе быў выдадзены бібліяграфічны даведнік «Максім Багдановіч». Разам з Алегам Лойкам яна падрыхтавала альбом-выстаўку пра Максіма Адамавіча. Меў чытацкі попыт зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра незвычайнага творцу пад назвай «Шлях паэта» (1975 г). Парадавала Н. С. Ватацы даследчыкаў творчасці класіка і ў 1977-м, і ў 1981-м, калі да 90-годдзя з дня нараджэння выдатнага Творцы выйшла «Песня Максіма».

На экране — невядомыя тэксты, адбіткі аўтографаў, фотаздымкі, выданні даўніх часоў, пажаўцелыя архіўныя старонкі…

Вядучы мусіў прадставіць гледачам удзельнікаў той адмысловай тэлеперадачы. Што я і зрабіў. Але сёння мы ў «студыі» газетнай, якая мае назву «Аблічча», і я, распавядаючы пра сустрэчу 33-гадовай даўнасці, прыводжу абноўлены аповед пра шляхетную, абаяльную жанчыну таго часу.

Ніна Барысаўна Ватацы нарадзілася ў маі 1908 года ў горадзе Вендэн Ліфляндскай губерні. Толькі ў 1926 годзе сям'я служачых змагла вярнуцца на радзіму. Наша гераіня спачатку працавала мастаком у музеі, а з 1927-га па 1930 год вучылася ва ўніверсітэце. Працавала ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР да 1936 года, аж пакуль яе мужа, Саўчанку Аляксандра Іванавіча, не арыштавалі. Аспіранта, які працаваў над дысертацыяй пра творчасць Змітрака Бядулі, выслалі ў Комі АССР за «контррэвалюцыйную трацкісцкую дзейнасць і антысавецкую агітацыю». Жонка «ворага народа» працавала бібліятэкаркай у Архангельску, у Кіраве.

Мужа Ніны Барысаўны ў жніўні 1941 года мабілізавалі ў войска. Ён загінуў на фронце на пачатку 1942 года. Мо таму Ніне Барысаўне ў тым жа 42-м можна ўжо было працаваць загадчыцай бібліятэкі ва Ульянаўску?

Толькі ў 1945 годзе яна вярнулася на радзіму і да 1990 года працуе бібліёграфам-кнігазнаўцам бібліятэкі, якая сёння называецца Нацыянальнай.

**Сяргей ПАНІЗНІК**

*Адначаснікі*



**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Наталля

Са скрухай усё часцей узгадваю тых, хто зусім нядаўна быў побач, а сёння — там, у іншым свеце. Бясстрасны інтэрнэт днямі выдаў «фрэндам» «Фэйсбука» напамін павіншаваць з днём нараджэння Наталлю Ваніну. Яму што — ён машына, а як нам, калі мы пахавалі Наталлю Генадзьеўну яшчэ ў студзені!.. А год таму я без інтэрнэтнага напаміну віншаваў сваю даўнюю таварышку і калежанку. Як заўсёды, мы шмат жартавалі, гаварылі пра агульных знаёмых, дзяліліся навінамі…

Мы з Наталляй ведалі пра яе хваробу, але ніколі не ўзгадвалі яе, бо цеплілася надзея, што яна ўсё ж адступіць — настолькі Наташа супрацьстаўляла ёй свой прыродны аптымізм, сваю бурную дзейнасць журналіста, выдаўца, арганізатара.

Памятаю, калі пачуў па тэлефоне пра страшны дыягназ, не знайшоўся адразу, шукаючы суцяшальныя словы. А Наталля прамовіла: «Буду ратавацца працай. Нам яшчэ шмат трэба паспець». Мы якраз выпусцілі сумесную кнігу з серыі «Гарады і гістарычныя мясціны Беларусі» пра наш Полацк. Былі задуманы і іншыя — пра Мінск, Гродна, Віцебск. А раней Наталля Генадзьеўна ініцыявала і выдала ўнікальную кнігу "Я — грамадзянін Беларусі», якая ўручаецца юнакам і дзяўчатам пры атрыманні пашпарта.

З Наталляй я пазнаёміўся ў 1970-х, у рэдакцыі полацкай газеты «Сцяг камунізму». Нашы сталы ў рэдакцыйным кабінеце стаялі насупраць, і мы не толькі бачыліся штодня, але і абменьваліся думкамі, часам спрачаліся, але заўсёды па-сяброўску, добразычліва.

Памятаю, як з калегамі ездзілі да Наталлі ў адведкі, калі ў яе нарадзілася дачка Юля, як за сталом з намі сядзелі цудоўная Наташына мама, муж Саша, а бацька, афіцэр, камандзір часці, быў недзе на вучэннях… Потым Сашу перавялі на службу ў сталіцу, я перайшоў працаваць у Наваполацк, але нашы стасункі не перарваліся. Прыязджаючы ў Мінск, я спыняўся ў дружнай сям'і Ваніных. Напачатку Наталлі няпроста было ўліцца ў сталічнае жыццё. Паспрыяў яшчэ адзін наш зямляк, паплечнік па полацкай газеце Іван Стадольнік, па рэкамендацыі якога Наташу ўзялі на працу ў «Настаўніцкую газету».

Думаецца, ніхто не стане спрачацца, што, калі маладая полацкая журналістка праз пэўны час стала працаваць на адказнай пасадзе ў Міністэрстве адукацыі, а неўзабаве і ўзначаліла часопіс «Пачатковая школа», гэта засведчвала вартасць яе прафесійных якасцей. Пад кіраўніцтвам Ваніной сціплы ведамасны часопіс стаў ці не самым тыражным у краіне, а затым разросся ў холдынг з некалькімі часопісамі, актыўнай выдавецкай дзейнасцю. Усё гэта зрабіла яна — клапатлівая маці, бабуля семярых унукаў, камунікабельны, дасціпны чалавек.

Часам здаецца, што вось-вось зазвініць тэлефон і бадзёры жаночы голас у мабільніку прамовіць: «Ты дзе сёння абедаць будзеш? Мы з Сашам якраз насупраць, у «Камунарцы». Можа, кавы пап'ём разам?»

Але ведаю, што такога ўжо ніколі не будзе. І ўсё ж яна ёсць — не толькі ў маіх успамінах, згадках мужа, дзяцей, унукаў, сяброў. Яна — у нашай сумеснай рабоце пра Гомель, якая рыхтуецца да друку. А яшчэ — у тых кнігах і справах, якія працягваюць яе калегі.

# Падарожжа па краіне экслібрысаў




**Кніга Якава Бердзічэўскага «Народ кнігі. Да гісторыі яўрэйскага бібліяфільства ў Расіі» выходзіла ўжо тройчы (апошні раз — у 2009 годзе). Сотні імён кнігазбіральнікаў згадваюцца ў гэтым выданні, апісваюцца экслібрысы, выкананыя на працягу двух мінулых стагоддзяў.**

Канечне ж, аўтар дастаткова лаканічны ў апісанні бібліятэк уладальнікаў кніжных знакаў. І гэта зразумела.

Асобныя старонкі ўнікальнага аповеду — пра беларускіх кнігазбіральнікаў і майстроў экслібрыса. З нашай краінай «Народ кнігі» звязваюць і апісанні пэўных з'яў у гісторыі кніжнай справы. Як, напрыклад, згадка пра перадачу кніжніцы Яўрэйскага сектара Беларускай акадэміі навук унікальных кніг і рукапісаў па іўдаістыцы. Альбо — пра бібліятэку музычнай культуры і нот Эльякума Цунзера. Выканаўца песень на ідыш (апошні знакаміты «бадхен») памёр у ЗША ў 1913 годзе (эмігрыраваў з Расійскай імперыі ў 1889 годзе, бібліятэка засталася ў Мінску). Збор Э. Цунзера патрапіў у Яўрэйскі аддзел народнага побыту пры Беларускім музеі, арганізаваны ў 1925 годзе А. Палеесам. «Палеес, — піша Я. Бердзічэўскі, — аўтар шматлікіх мастацтвазнаўчых артыкулаў у беларускай перыёдыцы, укладальнік каталогаў мастацкай і этнаграфічных выставак ды інш. Асабліва адзначым яго работу над каталогам твораў мастака Я. М. Кругера, заснавальніка першай у Мінску мастацкай школы (1904), аўтара псіхалагічна тонка акрэсленых і па-майстэрску выкананых партрэтаў яўрэйскай і беларускай інтэлігенцыі. Заўважым, што буйнейшая карціна гэтага майстра была знішчана царскімі жандармамі яшчэ ў 1905 годзе. Карціна гэтая — «Пагром» — ва ўсёй жудаснай і незакамуфліраванай прастацці і яснасці паказвала трагізм самога існавання яўрэяў у царскай Расіі (захавалася толькі некалькі фотаздымкаў гэтага твора сёння ўжо зусім забытага мастака)».

У 1927 годзе графік А. Тычын зрабіў экслібрыс бібліятэкі Палееса, якая пазней у фашысцкую акупацыю Мінска будзе знішчана.

Дастаткова падрабязна расказвае Я. Бердзічэўскі пра звязанага з Беларуссю Саламона Юдовіна. Згадваецца і яго першая выстаўка ў Віцебску ў 1926 годзе. Відаць, для многіх адкрыццём стане імя кніжніка Алтэра Друянава, публіцыста і фалькларыста, які нарадзіўся ў Друі.

Яшчэ адзін важкі штрышок у гісторыю беларускага кніжніцтва — згадка пра А. Стрэльцэса, які ў 1960-я гады быў адзіным у Беларусі сур'ёзным збіральнікам, даследчыкам і прапагандыстам кніжнага знака. Сярод герояў кнігі Я. Бердзічэўскага — беларускія майстры экслібрыса Я. Мінін, А. Тычына, З. Гарбавец, С. Юдовіч. Сярод рэпрадукцый — экслібрысы і В. Вольскага (выкананы А. Тычынам і Я. Ціхановічам), Л. Рана (іх аўтары — Я. Ціхановіч і В. Ціхановіч), З. Азгура (аўтар В. Ціхановіч).




Здаецца, у полі зроку Я. Бердзічэўскага — літаральна ўсе бібліятэкі, якія заслугоўваюць увагі. Вось і пра гомельскага журналіста, бібліёграфа і кнігазнаўцу С. Шнапіра згадвае даследчык: «...валодаў унікальнай, адзінай падобнага характару бібліятэкай не толькі ў сваім горадзе, але, думаецца, і ва ўсёй рэспубліцы. Цяжка назваць якое-небудзь расійскае кнігазнаўчае выданне, якое адсутнічала б у яго шматтысячнай бібліятэцы. Свой збор кнігавыдавецкіх марак ён прадэманстраваў на адным з пасяджэнняў Ленінградскага таварыства экслібрыстаў (1926), а калекцыя кніжных знакаў камплектавалася ім да апошняга дня. Для яго кніг было выканана некалькі экслібрысаў...» Яшчэ пра аднаго гомельскага кнігазбіральніка расказвае Я. Бердзічэўскі: В. Фрыдман сабраў дзіўную па паўнаце калекцыю па тэме «Ясеніяніяна».

«Народ кнігі» — уражлівае кнігазнаўчае выданне, своеасаблівае падарожжа з экслібрысам па гарадах Беларусі і іншых краін, часам зусім далёкіх ад нашай Айчыны. А ў некаторай ступені — і штуршок, напамін пра тое, якая багатая ў нас біяграфія кнігазбіральніцтва. І вельмі шкада, што ў самой Беларусі не так і шмат выдаецца кніг па бібліяфільству.

**Сяргей ЗАЛАМАЙ**

*Парады пачаткоўца*



**Ігар ПАЛЯКОЎ**

# Мастацтва канфлікту

Галоўнае пытанне, якое хвалюе пісьменнікаў-пачаткоўцаў, — што трэба зрабіць, каб тваю кнігу выдалі? Адказ просты: напісаць яе. Гэта, вядома, жарт. Праўда ж у тым, што пісьменнік мусіць распавесці непаўторную гісторыю, якая зацікавіць шырокае кола чытачоў. Магчымасць першага выдання — гэта і ўдача, і пачатак доўгага шляху да поспеху.

Трэці год я назіраю за конкурсам «Першая глава», чытаю работы і мяркую, чаму ж так мала твораў сапраўды «чапляе»? Зразумела, што дасканаласць стылю і прафесіяналізм уласцівыя адзінкам. Але я кажу нават не пра «вычышчаныя да бляску» тэксты, а пра зацікаўленасць сюжэтам. Напрыклад, сёлета з шасцідзесяці конкурсных работ для сябе я адзначыў прыкладна чвэрць. Маю на ўвазе тэксты, у якіх адчуў атмасферу, убачыў герояў. У чым жа справа? Адказ просты: канфлікт і інтрыга. Дакладней, іх адсутнасць.

Разбярэмся падрабязна. Цікавая гісторыя трымаецца на трох кітах: сюжэт, герой, канфлікт. Вельмі часта з першымі двума пунктамі ў пачаткоўцаў поўны парадак, а вось з апошнім — амаль ніколі.

Успомніце самую простую схему са школьных урокаў літаратуры. Як нас вучылі пісаць сачыненні? Завязка — кульмінацыя — развязка. Дык вось, калі правесці паралель са школьнай праграмай, то большасць работ аўтараў-пачаткоўцаў — гэта пераказ, але ніяк не сачыненне. Ёсць зыходная тэма, далей бачым пераказ гэтай тэмы з уяўлення на паперу, але няма развіцця сюжэту, няма інтрыгі, у той час як усялякі сюжэт будуецца выключна на канфлікце інтарэсаў, тэмы і контртэмы. І сутыкацца яны павінны, змяняючы плынь жыцця, у гэтых трох ключавых кропках гісторыі: завязка — кульмінацыя — развязка. Няважна, з якім жанрам мы маем справу: драмай, меладрамай, трагедыяй, камедыяй, фэнтэзі — гэты закон павінен працаваць заўсёды.

Я заўважыў адну тэндэнцыю. Натхнёная першая старонка, другая. Бачна, што пісьменнік загарэўся ідэяй — і давай ярка, падрабязна расказваць пачатак гісторыі… Пэўна, і фінал туманна лунае ў галаве. Але ж да фіналу яшчэ ісці ды ісці — праз развіццё сюжэту, сярэдзіну твора. Вось яе можна і не чытаць: нічога інтрыгуючага, умова задачы часцей за ўсё падагнаная пад адказ. Сумна, цяжка. Прачытаў — нібы пералез праз блокі на будоўлі. Бывае, і фінал не варты чытання. Аўтар нібыта зайшоў у прыгожы лес, паблукаў у ім, ды і выйшаў з іншага боку. Гэта ў лепшым выпадку. У горшым — прайшоў па полі напрасткі: усё вядома, канец шляху бачны яшчэ ў пачатку!

Канфлікт — гэта тое, што змяняе плынь расповеду, «завязвае» яго. У пачатку тэксту мы стварылі атмасферу, ўвялі герояў. Далей справа за завязкай, інтрыгай. Канфлікт можа ствараецца так: услед за героем з'яўляецца антыгерой. Абодвух трэба прадумаць. Вось трывіяльны прыклад — добры і злы персанажы. Больш складаны выпадак — герой і яго ўнутраныя комплексы, якія перашкаджаюць дасягненню мэты, заяўленай на пачатку. Чытач павінен убачыць, якія ключавыя кропкі будуць пераадольваць героі, дзе гісторыя пачне рухацца наперад, і кожны раз у такія вызначальныя моманты цікавасць чытача будзе павышацца. Ад пачатку да завязкі, ад завязкі да кульмінацыі, ад кульмінацыі да развязкі.

Падумайце, які канфлікт палягае ў вашай задуме, якім можа быць антаганіст. Не проста выкладзіце на паперы гісторыю пра тое, як два сябры кудысь ішлі, ведучы філасофскія гутаркі, а зрабіце так, каб за паваротам яны нечакана напаткалі…

*Мастак і кніга*

# Казачныя прыгоды з эксперыментамі



Маладая мастачка Крысціна Пержукова толькі пачынае творчы шлях. Не так даўно ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла першая кніга, афармленая ёю, — пераклад на беларускую мову «Паштарскай казкі» вядомага чэшскага пісьменніка Карэла Чапэка. Сёння мы гутарым з мастачкай пра шлях да прафесіі, уплыў сям'і на выбар справы жыцця і пра кнігі, якія дзяўчына абавязкова хацела б аформіць.

**— Крысціна, ці даўно вы малюеце?**

— Здаецца, маляванне заўсёды было са мной. Я вучылася ў мастацкай школе № 1 імя Цвіркі, мастацкім каледжы № 26, цяпер — у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў у майстэрні народнага мастака Барыса Герлавана… А да ўсяго гэтага была мастацтвазнаўчая студыя «У госці да Цюбіка» пры Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, куды мяне гадоў з двух вадзілі разам са старэйшым братам. Першыя ўспаміны з ранняга дзяцінства — сяджу на падлозе і малюю. Напэўна, менавіта там, у «Цюбіку», пачалося маё захапленне мастацтвам. У студыі я правучылася каля адзінаццаці гадоў, і заняткі праходзілі па выхадных: спачатку мы вывучалі гісторыю мастацтва, шмат размаўлялі пра карціны, знаёміліся з экспазіцыяй мастацкага музея, а затым выбіралі карціну, якая нам больш за ўсё спадабалася, уладкоўваліся на падлозе і малявалі. З «Цюбікам» мы шмат вандравалі па Беларусі і суседніх краінах, ладзілі спектаклі, карнавалы, імпрэзы, ездзілі на пленэры. Дзякуючы Вользе Брыгаднай, кіраўніку студыі, кожны занятак быў незабыўным.

**— А як жа сям'я? Ваша мама, пісьменніца-казачніца Алена Масла, запрашала ў незвычайныя вандроўкі па старонках кніг?**

— Сапраўды, нямала паўплывалі бацькі. Дзяцінства маё было поўнае казачных прыгод і неверагодных эксперыментаў, а гэта, напэўна, самае галоўнае для будучага мастака. Дома ўвесь час нешта майстравалі, малявалі, абклейвалі сцены аплікацыямі, ставілі спектаклі, шмат чыталі.

Кожнае лета нас адвозілі ў вёску Мілашова, што на Мёршчыне, да бабулі. З Мілашовам звязаныя імёны славутых пісьменнікаў Оскара і Чэслава Мілашаў. Здаецца, зямля там незвычайная, казачная, старажытная. Станеш басаножка — і шчаслівы. У тых мясцінах усё скрозь дыхае містыкай і неверагоднай прыгажосцю: і возера ў выглядзе знака бясконцасці, і капліца XIX стагоддзя на паўвостраве, і кусты бэзу, якімі засаджаная ўся вёска. Начамі ў небе стаіць чырвоная або ярка-жоўтая поўня і мігцяць мірыяды зорак. У горадзе такіх не пабачыш.

**— Так прыгожа распавядаеце! Можа, і самі спрабавалі пісаць казкі, апавяданні?**

— Я нават працяглы час друкавалася! У газетах «Зорька», «Переходный возраст», часопісе «Качели»… Адной з мараў было паступіць у Інстытут журналістыкі. Але ўсё змянілася, калі, ужо скончыўшы мастацкую школу, я трапіла ў майстэрню да кніжнага ілюстратара Мікалая Казлова. Мы шмат гутарылі, я разглядала кнігі (многія з іх стаялі і ў мяне дома на паліцы), Мікалай Раманавіч распавядаў, як працуе, як праходзіць яго дзень. І калі інтэрв'ю было скончана і надрукавана, я зразумела, што хачу быць мастаком. На жаль, некалькі гадоў таму Мікалай Раманавіч пайшоў з жыцця, але кнігі, якія ён праілюстраваў, натхняюць мяне і па сёння. Яны мае памочнікі. Бывае, калі нешта не атрымліваецца, цяжка прыдумаць, пераадолець сябе, успамінаю, з якой адданасцю ён працаваў, і разумею: трэба так.

Ну і, па шчырасці, я пішу. Пакуль для сябе. З задавальненнем наведваю семінары і майстар-класы. Напрыклад, калі прыязджала шведская дзіцячая пісьменніца Эва Суса. Прыемна, што яна ўхваліла маю гісторыю.

**— Ведаю, што многія мастакі мараць праілюстраваць пэўную кнігу. Што хацелася б праілюстраваць вам?**

— Напэўна, «Хронікі Нарніі» Клайва Льюіса і «Бясконцую кнігу» Міхаэля Эндэ. А з айчынных — творы маёй мамы Алены Масла і Раісы Баравіковай.

**— Раскажыце, калі ласка, як працавалася над «Паштарскай казкай» Карэла Чапэка?**

— «Паштарская казка» была маёй дыпломнай работай у каледжы, толькі тады я распрацоўвала аб'ёмную кнігу пад аўдыядыск. У выданні «Мастацкай літаратуры» вобразы герояў — паштара Калбабы, дзяўчыны Марыські, гномаў і выявы гарадоў — засталіся. Але змянілася тэхніка выканання… У час падрыхтоўкі праекта мне пашчасціла супрацоўнічаць з цудоўнымі беларускімі мастачкамі Тамарай Шэлест, маім педагогам і кіраўніком дыплома ў каледжы, і мастацкім рэдактарам кнігі Маяй Пракаповіч. Гэта вялікае шчасце — працаваць з людзьмі, апантанымі ідэяй кнігі.

**— Як вы лічыце, пра што абавязаны памятаць мастак, які працуе з дзіцячай кнігай?**

— Думаю, трэба адчуваць любоў да сваёй справы і адказнасць — гэта галоўнае ў любой працы, асабліва ў дзіцячай літаратуры. А яшчэ — самому трэба быць крыху дзіцём.

**Кацярына СТАСЁНАК**



*Малюнкі Крысціны Пержуковай*



# Іконы стылю мадэрн

**Нетрадыцыйныя выявы дэманструе Мастацкая галерэя «Універсітэт культуры». Госці ўстановы ўбачаць работы творцаў з Польшчы, Украіны і Беларусі — вынікі міжнародных майстар-класаў іканапісу ў мястэчку Навіцы.**

Падчас адкрыцця экспазіцыі «Святочныя іконы» кіраўнік праекта Матэуш Сора распавёў пра творчыя сустрэчы, якія праходзяць штогод у Польшчы. Пленэры збіраюць іканапісцаў з розных краін. Сярод іх — не толькі заслужаныя майстры, але і тыя, хто толькі пачынае спасцігаць гэты складаны від мастацтва. Кожны ўдзельнік павінен напісаць ікону ў вельмі кароткі тэрмін — менеей чым за два тыдні. Працу творцаў суправаджаюць канферэнцыі і дыскусіі. Абмеркаванні прысвечаны галоўным іканаграфічным тэмам — прадстаўленню Хрыста, Багародзіцы, пасланцаў Божых, анёлаў і прарокаў.

Выстаўка збірае іконы розных канфесій. Вядомыя біблейскія сюжэты: «Уезд Гасподні ў Іерусалім», «Раство Хрыстова», «Пакроў Багародзіцы», «Сашэсце Святога Духа» і іншыя паўстаюць перад гледачамі ў новым аблічны. Выявы маюць нетрадыцыйную форму, многія належаць да незвычайных стыляў. Абразы хаваюць шматлікія таямніцы і сімвалы. Каб зразумець іх — трэба ўглядацца, разважаць.

Меркаванне пра іканапіс як мастацтва застылае з'яўляецца памылковым. Сучасныя майстры прапануюць новыя аўтарскія канцэпцыі, пашыраюць сімволіку колераў. У работах ёсць месца і векавым традыцыям, і эксперыменту. «Аўтары прытрымліваюцца аўтэнтычных тэхналогій і канонаў і ў той жа час выкарыстоўваюць сучасныя мастацкія рашэнні», — пракаментаваў экспазіцыю Аляксандр Шымбалёў, кіраўнік аддзела адукацыі і катэхізацыі Мінскай епархіі.

Іканапіс — складаная і працаёмкая справа, якая патрабуе ад мастака высокага майстэрства. Ён павінен мець асаблівы дар, быць асобай духоўнай. Раней іконы пісалі выключна манахі ды святары. Сёння да стварэння выяў далучаецца ўсё больш мастакоў, у тым ліку моладзь. Майстар-класы ў Навіцах наведалі больш як 50 чалавек, а працы, створаныя ў мястэчку, убачылі тысячы гледачоў на пасляпленэрных выстаўках ў Варшаве, Луцку, Львове і іншых гарадах.

— Ікона — гэта адчыненая Біблія, якая нясе святло і цеплыню людзям. Калі чалавек піша ікону, ён становіцца бліжэй да Бога. Прыемна, што з кожным годам цікавасць да гэтай светлай справы расце, — зазначыў пробашч касцёла святых Сымона і Алены Уладзіслаў Завальнюк.

По заканчэнні выстаўкі некаторыя работы будуць падараваны цэрквам і касцёлам.

**Ганна ПАЛЯКОВА**



*Аляксей Доўнар (Беларусь) «Укрыжаванне».*

**Што можа адчуваць музыкант на сцэне Радзімы пасля доўгага расстання? Радасць, хваляванне, вялікае творчае ўзрушэнне?.. Аркадзь Берын не хаваў эмоцый: нібы да яго вярнулася маладосць, ён віртуозна вёў за сабою музыкаў, пражываў кожны такт. На сваё сямідзесяцігоддзе маэстра прыехаў у Мінск і дырыжыраваў вялікі юбілейны гала-канцэрт у Палацы Рэспублікі.**



# Ад Штрауса да Марыконэ

Павіншаваць славутага дырыжора прыехалі вядомыя выканаўцы, якія выступілі ў суправаджэнні Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь; гучалі любімыя мелодыі папулярных кампазітараў — ад Штрауса да Марыконэ і П'яцолы.

Аркадзь Берын нарадзіўся ў Беларусі, але з 2001 года жыве і працуе ў Германіі. Мае дзве вышэйшыя адукацыі, скончыў аспірантуру, стажыраваўся ў Маскоўскай і Ленінградскай кансерваторыях. З 1968 года выкладаў у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі і аддаў гэтай працы больш як 30 гадоў. Дзякуючы маэстра пры Белдзяржкансерваторыі створаны знакаміты сімфанічны аркестр «Няміга», які заваяваў Гран-пры Міжнароднага конкурсу ў Люксембургу, што праводзіўся ЮНЕСКА. З канца 1990-х гадоў А. Берын дырыжыруе сімфанічнымі аркестрамі Італіі, Германіі, Францыі, Расіі, дае шматлікія майстар-класы і з'яўляецца арганізатарам фестывалю рускай сімфанічнай і камернай музыкі, мастацкім кіраўніком дабрачыннай акцыі «Княжацкі баль», ініцыятарам праекта «Дзіцячая філармонія Еўропы». За ўнёсак у развіццё рускай культуры за мяжой А. Берына ўзнагародзілі ордэнам імя М. В. Ламаносава. Сёння знакаміты дырыжор узначальвае фестывальны аркестр «International Symphony Orchestra of Germany».

З 70-годдзем Аркадзя Берына павіншаваў міністр культуры Беларусі Уладзімір Святлоў. Таксама на юбілейным канцэрце выступіў народны артыст Малдовы Канстанцін Масковіч. Народны артыст Расіі Аляксандр Малінін спяваў любімыя рамансы юбіляра. Цёпла прымалі гледачы і пераможцу тэлешоу «Голас» беларуса Сяргея Валчкова, які цяпер працуе ў Маскве.

**Дар'я ЛЁСАВА**

# Жыццё яе — прыгожая легенда

**Знакамітая спявачка Ларыса Александроўская — адна з першых беларускіх артыстак, уганараваных званнем народнай артысткі СССР і БССР. Асабліва папулярным яе імя стала ў сакавіку 1941 года, калі Ларыса Пампееўна стала лаўрэатам Сталінскай прэміі сярод дзеячаў культуры і мастацтва. Газета «Советская Белоруссия» пісала: «Уся краіна ведае яе надзвычайны талент. Узнагарода — за сумленныя вобразы беларускай дзяўчыны з народу, створаныя гэтым выдатным майстрам вакальна-тэатральнай культуры».**



Ларыса Пампееўна нарадзілася 15 лютага 1904 года ў Мінску ў сям'і чыгуначніка. Бацькі, у якіх было пяцёра дзяцей, жылі бедна, аднак Ларыса змалку была дапытлівай і вясёлай, свавольнічала з сяброўкамі, спявала ім песні. Яе сучаснік, журналіст В. Чыстаў пісаў, што яшчэ дзяўчынкай яна сама навучылася граць на мандаліне і гармоніку. Гэтае ўменне ішло ад пранікілівага слыху, якім адарыла яе прырода.

У 1932 годзе, калі Ларысе споўнілася васямнаццаць, яна ўладкавалася перапісчыцай на 18-я пяхотныя курсы і арганізавала пры Палітаддзеле Заходняга фронту гурт мастацкай самадзейнасці. Выступаючы ў музычных і драматычных спектаклях, Ларыса стала вядомай артысткай у горадзе. У тым жа годзе камісарам пяхотных курсаў стаў Нікандр Міхайлаў, родам з Гродна. Ларыса часта бачыла яго ў гарнізонным клубе, слухала прамовы на мітынгах, і нядзіўна, што хутка яны пазнаёміліся і пасябравалі, а затым з'явіліся і больш цёплыя пачуцці. Маці не адразу згадзілася выдаць дачку замуж, але пасля многіх перажыванняў усё скончылася вяселлем.

Восенню 1924 года Александроўская паступіла ў Мінскі музычны тэхнікум: хацела навучыцца «правільна спяваць». У 1927 годзе на Міжнароднай музычнай выстаўцы ў Франкфурце-на-Майне Ларыса выконвала беларускія песні, гастраліравала ў Германіі і Швецыі, у 1933-м у Мінску дэбютавала ў партыі Кармэн на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР.

Вярнуўшыся з гастроляў, Ларыса працягвала вучыцца ў тэхнікуме, па сканчэнні якога адразу ж адабралася ў толькі што створаны оперны клас з дванаццаці чалавек. Менавіта ён стаў першым каменем у фундаменце будучага Вялікага опернага тэатра Беларусі. Клас падрыхтаваў оперу «Русалка» А. Даргамыжскага на беларускай мове. Так, Ларыса Александроўская актыўна ўдзельнічала ў стварэнні опернага тэатра і ўвогуле опернага мастацтва СССР. У ліку яе першых роляў на новай сцэне — Таццяна ў оперы «Яўген Анегін», Яраслаўна ў «Князю Ігары», Наталля ў «Русалцы», Ліза ў «Пікавай даме».

Летам 1940 года падчас дэкады беларускага мастацтва ў Маскве Л. Александроўская выконвала ролю Марысі ў оперы «Міхась Падгорны» Я. Цікоцкага. Мінчанка натхнёна «спявала» любімую Марысю — беларускую дзяўчыну, чыстую і высакародную. Дзеля раскрыцця душэўных якасцей гераіні артыстка знайшла дакладныя інтанацыі, уражлівыя рухі. У той вечар спявачка заваявала прызнанне самых патрабавальных слухачоў. У гады Вялікай Айчыннай вайны Л. Александроўская ўдзельнічала ў франтавых канцэртных брыгадах. Пазней за выдатныя поспехі ў развіцці беларускага тэатральнага і музычнага мастацтва Ларыса Пампееўна будзе ўзнагароджаная ордэнам Леніна і атрымае званне народнай артысткі СССР. Ларыса была вядома як лепшая выканальніца партый класічнага і нацыянальнага рэпертуару, у тым ліку опер А. Багатырова, Д. Лукаса, Я. Цікоцкага, М.Чуркіна і іншых.

Ларыса Пампееўна праявіла сябе і як таленавіты аратар: 12 сакавіка 1951 года як дэпутат ад Асіповіцкай выбарчай акругі яна выступіла ў Крамлі на сесіі Вярхоўнага Савета СССР. З 1946 па 1976 гады спявачка была старшынёй праўлення беларускага тэатральнага грамадства, а таксама — дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР з 1946 па 1958 год.

23 мая 1980 года оперная легенда пакінула гэты свет. У яе гонар у Мінску названыя вуліца, музычная школа № 1, камерная зала ў Вялікім тэатры, а на доме па вуліцы Захарава, 27, дзе жыла Ларыса Александроўская, устаноўлена мемарыяльная дошка.

**Эдуард КАРНІЛОВІЧ**

## ПАЛІТЫКА vs ЛІТАРАТУРА

На пачатку новага, XX, стагоддзя ідыш-моўных пісьменнікаў беларуска-літоўскага акрэсу было некалькі дзясяткаў. Па-рознаму складваўся іх жыццёвы і літаратурны лёс.

Так, Абрам Рэйзін праследаваўся царскімі ўладамі за свае палітычныя погляды, а песні, складзеныя на яго вершы, спяваліся на сходках і дэманстрацыях. Лейвіка арыштоўвалі за рэвалюцыйную дзейнасць. У мінскай турме ён знаходзіўся ў адзін час з Якубам Коласам, з якім быў знаёмы. Уцёкшы з катаргі, Лейвік дабраўся да Амерыкі, дзе працягваў літаратурную і грамадскую дзейнасць, да канца жыцця захаваўшы цёплыя ўспаміны пра родны Ігумен (Чэрвень) і прысвяціўшы яму цыкл лірычных вершаў. Блізкімі да Бунда па сваіх поглядах былі Ц. Даўгапольскі, Н. Лур'е, М. Бірнбойм, І. Апатошу, М. Кульбак, Д. Эйнгарн, але іх творы ўсё ж належалі літаратуры, а не палітыцы. Тое ж можна сказаць і пра І. Гольдберга (псеўд. Якнэгоз), Р. Браништэйна, М. Спектара, Д. Эплбойма, якія спачувалі сіяніцкаму руху.

Цікавай фігураю ў яўрэйскай перадрэвалюцыйнай культуры быў паэт-песеннік і кампазітар Элі Савікоўскі. Пэўны час ён жыў у Варшаве, дзе зблізіўся з І. Л. Перацам, там жа пачаў друкавацца. Э. Савікоўскі збіраў фальклор, ствараў песенныя тэксты і складаў для іх музыку, многа пісаў для дзяцей (на ідыш і на іўрыце). Пасля рэвалюцыі, адмовіўшыся ўступаць у савецкія творчыя саюзы, друкаваўся рэдка, таму большая частка спадчыны паэта і кампазітара засталася неапублікаванай.

Кастрычніцкая рэвалюцыя абярнулася зруйнаваннем яўрэйскай культуры на мове іўрыт у Савецкай Беларусі (як, дарэчы, на ўсёй савецкай прасторы) і росквітам культуры на мове ідыш. Палітыка беларусізацыі і спрыяння нацыянальным меншасцям зрабіла магчымым з'яўленне шматлікіх яўрэйскіх перыядычных выданняў (інфармацыю пра іх сабраў і прадставіў у кнізе «Яўрэйская духоўная культура ў Беларусі» (Мінск, 1995) даследчык Арон Скір). Вакол перыёдыкаў гуртаваліся пісьменнікі і крытыкі розных пакаленняў і светапоглядаў: пастаяннымі аўтарамі «Дэр юд» былі І. Голдберг, Р. Браништэйн, М. Спектар, Б. Эплбойм і інш. У «Дэр вэкер» друкаваліся Н. Лур'е, М. Бірнбойм, Ц. Даўгапольскі, Д. Эйнгорн, І. Апатошу, М. Кульбак. З «Дэр юнгер арбэйтэр» актыўна супрацоўнічалі М. Тэйф, Б. Олеўскі, Ш. Гельманд, М. Гарцман, М. Ліфшыц, Г. Камянецкі, Р. Рубіна, І. Сярэбраны.

Найзначнейшую ролю ў фарміраванні пляяды яўрэйскіх пісьменнікаў савецкага часу адыграў, безумоўна, часопіс «Штэрн», які прыцягнуў да сябе пісьменнікаў Беларусі, іншых саюзных рэспублік, а таксама пэўных аўтараў з-за мяжы (вядома больш за 200 імёнаў мастакоў слова, чые творы пабачылі свет на старонках гэтага часопіса).

## ВУСНАМІ БАДХАНА

Сярод яўрэйскіх пісьменнікаў Беларусі ў 1930-я гады асабліва вылучаліся Ізі Харык, Мойша Кульбак і Зэлік Аксельрод.

Ізі Харык передусім быў паэтам высокага сацыяльнага гучання. Яго паэма «Мінскія балоты» прысвечаная грамадзянскай вайне, паэмы «Хлеб» і «Душою і целам» — прыцягненню яўрэяў

# Рэвалюцыя. Рэпрэсіі. Адраджэнне

**Першыя дзве часткі працы Фелікса Баторына, прысвечанай яўрэйскай літаратуры, былі надрукаваныя ў №№ 4 і 6 «ЛіМа». Аповед пра найбольш значныя яе імёны і найвыбітнейшыя творы прыпыніўся на 1870 годзе, які азначыў канец адраджэнскага яўрэйскага руху Гаскала. Сёння чытачам прапануоўваецца заключная частка працы Фелікса Барысавіча.**



*Рыгор Барадулін і Рыгор Рэлес.*

да сельскагаспадарчай працы і іх духоўнаму росту ў новых сацыяльных умовах, паэма «Круглыя тыдні» — індустрыялізацыі палескага краю. Ізі Харык быў перакананым камуністам, актыўна працаваў не толькі ў літаратуры, а і ў палітыцы, займаючы высокую пасаду ў ЦВК БССР. Ён быў прыкладам і настаўнікам для літаратурнай яўрэйскай моладзі. Але шмат у творчай спадчыне Харыка лірычных вершаў, прасякнутых замілаваннем да простага чалавека, да роднай прыроды; у яго творах лірызм арганічна спалучаецца з гумарам. Апошнім вялікім творам паэта была паэма «На чужым вяселлі». Знаўца яўрэйскай літаратуры паэт Р. Рэлес лічыў, што ў гэтай паэме адлюс-



*Зэлік Аксельрод.*

травалася расчараванне І. Харыка ў Сталіне. На думку Рэлеса, у паэме вуснамі бадхана (вясельнага скамароха) сам аўтар гаворыць пра сваё становішча, калі ад яго вымагаюць толькі ўсхвалення, а на душы ў гэты час чорна.

Актыўна друкаваліся і перакладаліся творы ўраджэнца Смаргоні М. Кульбака, які доўгі час жыў у Вільні. Яго зборнікі «Вершы» (1920), «Новыя вершы» (1922), раманы «Месія — Сын Эфраіма», «Панядзелак» былі добра вядомыя савецкаму чытачу. Па творчай манеры М. Кульбак быў блізкі да сімвалістаў. Нават у паэмах, прысвечаных рэвалюцыі («Бэра і Буня ў дарозе», «Горад»), ён быў далёкі ад марксіцка-ленінскай трактоўкі гісторыі.

У 1927 годзе М. Кульбак перабраўся ў Савецкую Беларусь. Пісьменнік пільна прыглядаўся да зменаў, што адбываліся ў краіне, спрабаваў асэнсаваць і ацаніць іх. Пільным вокам мастака ён убачыў, з якою цяжкасцю прызвычайваецца старэйшае пакаленне да новых парадкаў, як ламаецца традыцыйны жыццёвы лад. Адчуваючы сілу савецкай улады, людзі прыстасоўваліся да нязвыклых умоў, і гэтыя патугі звонку выглядалі смешнымі і ненатуральнымі, хоць па сутнасці былі драматычнымі і нават трагічнымі (раман «Зельмянянцы»).

М. Кульбак старанна абмінаў у сваёй творчасці «савецкую» тэму. Так, у паэме «Дзісенскі Чайльд-Гарольд» ён паказвае становішча інтэлігента ў капіталістычнай Еўропе пачатку 1930-х гадоў; падзеі ў гістарычнай драме «Бойтра» (1936) адбываюцца ў часы царавання Мікалая І (гэты твор пераклікаецца з «Робінам Гудам» Вальтэра Скота і Купалавай «Магілай льва»).

Галоўнае месца ў творчасці Зэліка Аксельрода займала інтымная лірыка, матывы кахання і сяброўства, а стылістыка вершаў нагадвала паэзію Сяргея Ясеніна.

Сярод пісьменнікаў пасляэвалюцыйнага пакалення трэба адзначыць безумоўна таленавітых празаікаў Ц. Даўгапольскага і Д. Маршака, літаратуразнаўцу Уры Фінкеля, які пачынаў як ваенны карэспандэнт Заходняга фронту грамадзянскай вайны.

У 1925 годзе разам з літаратуразнаўцам І. Ойслендэрам У. Фінкель стварыў манаграфію пра драматурга і заснавальніка яўрэйскага тэатра А. Гольдфадэна, а таксама выдаў даследаванні жыцця і творчасці Мэндэлэ Мойхер-Сфорыма і Шолам-Алейхема, якія былі перакладзеныя на шэраг замежных моў.

У 1926 годзе пры рэдакцыі газеты «Дэр юнгер арбэйтэр» паўстала літаратурнае аб'яднанне, з якога выйшлі пісьменнікі Майсей Тэйф, Мэндл Ліфшыц, Рыва Рубіна, літаратурны крытык Ізраіль Сярэбраны. Да гэтага ж пакалення належалі пісьменнікі Х. Мальцінскі, Р. Рэйзін, З. Цялесін, Р. Баўмволь, М. Грубіян, Л. Талалай, Г. Шведзік, М. Дзягцяр, З. Барсук, П. Плоткін, С. Ляльчук, Л. Гелер, М. Каплан, Р. Рэлес.

## ЯК ДАЖЫЦЬ ДА АДЛІГІ

Першаю ахвяраю сталінскіх рэпрэсій сярод прадстаўнікоў яўрэйскай літаратуры Беларусі стаў вядомы пісьменнік і журналіст, колішні галоўны рэдактар газеты «ЛіМ» Х. Дунец. Неўзабаве ў шэрагах рэпрэсіраваных з'явіліся паэт і нарысіст А. Юдэльсон, І. Харык, М. Кульбак, вядомы крытык Я. Браништэйн, Л. Царт, Н. Кабакоў, Годэр, рэдактар рэспубліканскай яўрэйскай газеты Э. Ашаровіч і Ц. Даўгапольскі. Пераважную гады рэпрэсій толькі Даўгапольскі, асуджаны на 5 гадоў зняволення, астатнія былі неўзабаве пасля арышту расстраляныя. У 1937 годзе былі зачыненыя ўсе яўрэйскія навучальныя ўстановы і спынена выданне яўрэйскіх падручнікаў. Асаблівая роля ў гэтым належала адданаму выканаўцу сталінскіх загадаў першаму сакратару ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнку. З усіх яўрэйскіх выданняў працягвалі выходзіць толькі газета «Акцябэр» і часопіс «Штэрн». Але галоўным рэдактарам «Акцябэра» быў прызначаны чалавек, які не валодаў яўрэйскай моваю. Замест расстралянага І. Харыка яўрэйскую секцыю Саюза пісьменнікаў



*Мойша Кульбак.*

БССР узначаліў Г. Камянецкі. У 1940 годзе былі арыштаваныя З. Аксельрод, празаік і крытык Р. Бярозкін.

У чэрвені 1941 года, уцякаючы з Мінска перад наступленнем нямецкіх войскаў, НКУСаўцы расстралялі З. Аксельрода. Р. Бярозкін і Э. Каган засталіся ў жывых і пайшлі на фронт. Э. Каган геройчна загінуў у баі, Р. Бярозкін дайшоў да Берліна, але адразу пасля вайны быў зноў арыштаваны і асуджаны на 10 год у ГУЛАГу. Пасля рэабілітацыі Р. Бярозкін актыўна працаваў у беларускай літаратуры, быў адным з вядучых крытыкаў, але ў яўрэйскую літаратуру ўжо не вярнуўся.

Шмат яўрэйскіх пісьменнікаў і дзеячаў культуры ваявала ў шэрагах Чырвонай Арміі і ў падполлі на акупаваных тэрыторыях. З яўрэйскіх пісьменнікаў Беларусі на франтах загінулі Рува Рэйзін, Леў Талалай, Генах Шведзік, Шымон Ляльчук, Давід Курлянд, Захар Барсук, у гета — паэтэса і празаік Сара Каган, Рахель Брохэс, Данііл Маршак, крытык Ісак Рэзнік, адзін з кіраўнікоў падпольнай арганізацыі Мінскага гета Нота Вайнгаўз, баец-падпольшчык Віленскага гета Бэр Сарын.

З вайны вярнуліся ў Мінск А. Платнер, Г. Камянецкі, Х. Мальцінскі, Р. Рэлес, У. Фінкель, якія асеў у Ракаве, а з эвакуацыі — Э. Савікоўскі. У іншых гарадах Беларусі жылі Ц. Даўгапольскі, П. Плоткін, Л. Гелер, Х. Гурэвіч. У Маскве пасяліліся М. Ліфшыц, З. Цялесін, Р. Баўмволь, крытыкі Р. Рубіна і І. Сярэбраны.

Пасля вайны беларускія яўрэйскія дзеячы культуры актыўна прыступілі да яе адраджэння. Быў выдадзены першы нумар альманаха-штогодніка «Міт фэстн трот» («Цвёрдым поступам»), узнавіліся радыёперадачы на мове ідыш. Былі выдадзеныя зборнік апавяданняў А. Платнера і кніга вершаў Г. Камянецкага. Вярнуўся з эвакуацыі яўрэйскі тэатр.

Аднак напрыканцы 1940-х гадоў у СССР распачалася магутная антысеміцкая кампанія ў выглядзе барацьбы з касмапалітамі. Былі скасаваныя яўрэйскія секцыі саюзаў пісьменнікаў, зачыненыя яўрэйскія тэатры, а большасць пісьменнікаў і дзеячаў тэатра рэпрэсіраваны. Арыштаваныя амаль усе беларускія яўрэйскія пісьменнікі, нават тыя, што пераехалі ў Маскву, а Р. Рэлес змушаны да звальнення з працы ў рэдакцыі часопіса «Вожык» і выключаны з Саюза пісьменнікаў Беларусі. Не ўратавалі ад арышту ўцёкі ў Біробіджан і Хаіма Мальцінскага. Пасля смерці Сталіна антысеміцкія кампаніі былі спыненыя, а неўзабаве пачалася хрушчоўская рэабілітацыя. Аднак стаўленне ўладаў да яўрэйскай культуры заставалася адмоўным. Толькі ў 1960-я гады, пасля вялікіх намаганняў, удалося дабіцца выхаду ў Маскве часопіса «Саветыш геймланд» і ў Бірабіджане газеты «Біраbіджанэр штэрн» («Біраbіджанская зорка»). Ва ўмовах адсутнасці адукацыі на яўрэйскай мове, афіцыйнага замоўчвання яўрэйскай культуры, перашкодаў дзейнасці яўрэйскіх рэлігійных абшчын, размахвання жупелам антысіянізму пасляваеннае пакаленне яўрэяў адышло ад мовы ідыш.

## НОВАЕ АДРАДЖЭННЕ

З пачаткам перабудовы зацеплілася надзея на адраджэнне яўрэйскага жыцця ў Савецкім Саюзе ўвогуле і ў Беларусі ў прыватнасці. Больш не праследуецца вывучэнне іўрыту, узнікаць яўрэйскія грамадскія аб'яднанні. Р. Рэлес, які і да таго працягваў пісаць на ідыш, ездзіў па ўсёй Беларусі, прапагандаваў яўрэйскае слова і збіраў фальклор, адшукваючы апошніх яго носьбітаў. Перабудова ўдыхнула ў пісьменніка свежыя духоўныя сілы. Р. Рэлес пачаў весці курсы мовы ідыш у Мінскім аб'яднанні яўрэйскай культуры, падахвочваў яўрэйскую моладзь да творчасці на роднай мове. Але праз абвальнае скарачэнне чытацкай (па-яўрэйску) аўдыторыі гэтыя спробы сышлі на нішто.

Цяперашнім часам у нашай краіне ёсць рускамоўныя і беларускамоўныя яўрэі — літаратары і дзеячы культуры; яўрэйскія грамадскія згуртаванні выдаюць газеты і часопіс «Мішпоха» на рускай мове. Але гісторыя ўласна яўрэйскай літаратуры ў Беларусі, на вялікі жаль, на цяперашні час прыпынілася.

**Фелікс БАТОРЫН**


Фота Ганны Грынкевіч

# Па законах святла

**Вы праўда думаеце, што сталы ўзрост — гэта нагода паставіць на сабе «таўро» бяздзейнасці? Пазнаёмцеся з чалавекам, які ў 80 гадоў адціскаецца па 40 разоў на дзень, абліваецца халоднай вадой і бегае басанож па снезе. Піша кнігі. Ніколі не скардзіцца. Любіць людзей і лічыць, што іх трэба паважаць і хваліць. Сілы знаходзіць у працы. Завуць яго Аляксей Сцяпанавіч Зубра. Прафесар працуе на кафедры псіхалогіі кіравання Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Беларусі ўжо 14 гадоў. Доктар псіхалагічных і педагагічных навук, акадэмік акмеалогіі, першы ў Беларусі прафесар культуралогіі і кандыдат філасофскіх навук. Служыў у артылерыі і ракетных войсках, дайшоў да звання палкоўніка. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі.**

### ПРЫТЧА ПРА НЕПАСЛУШЭНСТВА

Аляксей Зубра нарадзіўся за шэсць гадоў да вайны, у маленькай, але вельмі маляўнічай вёсцы Серпутова Барысаўскага раёна.

— Што памятаю з дзяцінства? У школе называлі дурнем і казалі, што нічога добрага з мяне не выйдзе. Таму скончыў я сем класаў з вялікай цяжкасцю і на адны тройкі. На зло! Гэта ўрэзалася ў свядомасць на ўсё жыццё. Голад, разбураная бомбай хата, холад і безбацькоўшчына сталі прычынай майго непаслушэнства. Быў я вельмі хуліганістым дзіцем. Лазіў у суседскія сады за грушамі, яблыкамі і слівамі, краў моркву з градак. Але і карміў сям'ю: нас было пяцёра разам з матуляй — тата не вярнуўся з фронту.

### МАТЭМАТЫК-ЧАРАЎНІК

Чалавеку ўласціва змяняцца, рух — сутнасць жыцця. А калі побач апынаецца той, хто ў цябе верыць — ты можаш усё. Так і Аляксей Сцяпанавіч, патрапіўшы ў Барысаўскую сельскагаспадарчую школу, сустрэў чалавека, які зрабіў з непаслухмянага хлапчука руплівага і адказнага юнака.

— Як цяпер памятаю: у аўдыторыю ўваходзіць двухметровы мужчына. Кажа: «Добры дзень, дзеці! Як жа вам пашанцавала! Я, настаўнік-віртуоз, буду выкладаць у вас матэматыку. Прычым так, што з двоечнікаў зраблю геніяў». Ён ведаў тэорыю бездакорна, але тлумачыў нам яе простымі словамі, з жартамі і анекдотамі, а галоўнае — уважліва ставіўся да кожнага вучня.

На першым уроку выкладчык падышоў да Алёшы, нахіліўся да яго і прамовіў: «Я ведаю, што ты геній! Спісаў з дошкі і зрабіў усяго толькі сем памылак! Малайчына!»

— Бачыце, ён даў мне іншую ўстаноўку — хвалу за тое, што я дапусціў промах, але такую, якая мабілізуе і натхняе! Магія гэта ці не, але з таго моманту я ставіўся да вучобы інакш. Паверыў у свае сілы.

### ШПАЦЫР У ВАЙСКОВЫХ БОТАХ

У 19 гадоў Аляксей Зубра быў прызваны ў войска. Памятае, як яго і таварышаў везлі на Далёкі Усход цэлых 27 сутак! Пад'ёмы з самае раніцы, стрэльбы, поўзанне па акопах — усё гэта стамляла, але цікавіла.

— У Хабараўскім артылерыйскім вучылішчы, куды я паступіў, а потым і ў маскоўскай Ваеннай акадэміі быў ідэальны парадак, чысціня і строгасць. З часам я прыйшоў да высновы: усё, што акружае чалавека, прама ўздзейнічае на яго стан і лад думак. Мне пашанцавала, бо я трапіў у такое культурнае асяроддзе, дзе можна было вырасці як асоба.

### СЭНС ПРАЦЫ НАСТАЎНІКА

Вярнуўшыся на радзіму ў 1988 годзе ў званні палкоўніка, Аляксей Зубра стаў актыўна шукаць сябе — і знайшоў у працы выкладчыка. Вырашыў заняцца тым, што аб'ядноўвае філасофію, сацыялогію, псіхалогію, педагогіку, этыку і эстэтыку, — культуралогіяй. Паспяхова абараніў доктарскую і першым на Беларусі атрымаў званне прафесара культуралогіі. Але не гэтым ён хваліцца:

— Для мяне як настаўніка самая вялікая ўзнагарода — убачыць, што ад маіх заняткаў студэнты і слухачы сталі духоўна багацей і авалодалі ўменнем думаць самастойна.

### МАСТАЦТВА БАЧЫЦЬ ЛЕПШАЕ

Прафесар упэўнены, што «трэба шукаць у вучнях задаткі, якія ім дала прырода, і развіваць іх, а не прымушаць займацца тым, што не дадзена». Ён ніколі не абвінавачвае, не акцэнтуе ўвагу на слабасцях і недахопах, а толькі дае парады. Шмат хваліць, але па справе.

— Імкнуся бачыць у маіх выхаванцах толькі добрае, матывую іх жаданне стануць лепш, а не хавацца ад крыўдаў у свой «панцыр». Калі мы крытыкуем людзей, яны думаюць толькі пра тое, як абараніцца. Калі мы іх хвалім, то ўзвышаем і натхняем.

### ВЫШЭЙШАЯ СІЛА

Аляксей Сцяпанавіч лічыць, што акмеалогія — навука будучыні і вяршыня педагогікі, самасцвярджэнне чалавека праз самаўдасканаленне.

— Калі ёсць праца — значыць, з чалавекам усё нармальна. Ён не дэградуе. Таму важна трэніраваць сябе ўвесь час — і дух, і цела. «Акме» як росквіт асобы, вяршыня прафесіяналізму, сталасць, лепшая пара жыцця дае чалавеку мора магчымасцей. Хто дасягнуў свайго «акме» — можа рабіць іншых па-сапраўднаму шчаслівымі і весці да мудрасці. У чым сакрэт і сэнс быцця? Зірнула сонейка на нас з акна — і мы заўсміхаліся. А калі яшчэ і сіла духу ёсць, яно пачынае свяціць знутры. Мы можам ісці да людзей і несці гэта святло. Таму культура — шанаванне святла, жыццё па яго законах.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Экспромт на шасці струнах

Калі б у гітарыстаў Беларусі была свая кніга рэкордаў, туды б абавязкова патрапіў Алег Капянкоў. Кампазітар за некалькі гадоў выпусціў больш як шэсцьдзясят нотных зборнікаў. Піша музыку ў стылі «неарамантычнага прымітывізму». Выкладае класічную гітару ўжо трыццаць пяць гадоў, а яго нотнымі падручнікамі з задавальненнем карыстаецца ўся краіна. Удзельнік дуэта «Копакабана», ён аб'ездзіў з гастролямі ўсю краіну і блізкае замежжа. Нязменны старшыня Клуба гітарыстаў Беларусі не любіць сядзець на месцы і спрабуе розныя амплуа. Музычны тэрмін «Adagio», які азначае «спакой», відавочна, не для яго. Але самае цікавае, што свае таленавітыя п'есы ён пачаў стварыць... проста так, дзеля жарту!

**— Алег, у дзяцінстве вы былі такім жа непаседам?**

— У першым класе ўвесь час стаяў у кутку — за тое, што любіў грымаснічаць. На ўроках усе глядзелі на настаўніцу, таму я са скуры прэч лез, каб заваладаць увагай дзіцячай публікі. Мне прадказвалі кар'еру цыркавога артыста і нават клоўна.

**— З якім літаратурным героем вы параўналі б сябе цяпер?**

— Мне падабаецца Астап Бэндэр. Не таму, вядома, што ён падманваў людзей, а сваёй абаяльнасцю, уменнем знаходзіць агульную мову з любым чалавекам. На шчасце, сябры ўпэўнены, што і са мной проста: я таксама даволі харызматычны, вясёлы і ведаю процьму анекдотаў.

**— Як здарылася, што захапіліся музыкай?**

— Музыка гучала ў маёй сям'і заўсёды. Бацька скончыў музычную вучэльню, працаваў у філармоніі. Праўда, з першай зарплаты купіў сабе матацыкл і так захапіўся тэхнікай, што сышоў працаваць на Мінскі аўтамабільны завод. Вырашыў: «лепш я буду добрым слесарам, чым дрэнным музыкам». З мамай ён пазнаёміўся там жа, у аматарскім аркестры Палаца культуры МАЗа — яны разам гралі на народных інструментах, домры і балалайцы. Зараз у гэтым жа палацы працуе мой Клуб гітарыстаў Беларусі, так што МАЗ — гэта ўжо сямейнае прадпрыемства.

**— Чаму ж вы выбралі гітару?**

— Яшчэ хлапчуком я вельмі захапляўся ўсялякімі прафесіямі. Праеду ў таксі — цвёрда вырашу, што стану кіроўцам. Паназіраю, як на будоўлі цэглу кладуць, — загаруся ідэяй працаваць будаўніком. Але аднойчы бацькі падарылі мне магнітафон з запісамі песень Высоцкага. А потым я ўбачыў па тэлевізары яшчэ і Марыю Луізу Аніда, цудоўную аргентынскую гітарыстку. І ледзь не ўпаў: з інструмента, аказваецца, можна «вывуджваць» віртуозныя гукі, а не толькі акорды! Так я апынуўся ў музычнай школе. Потым трапіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў на джазавае аддзяленне. Было цікава адчуць гітару не толькі ў класічным вобразе. Гэты інструмент, дарэчы, заўжды са мной.


*Дуэт Алега Капянкова і Сяргея Кабанава.*

**— Ці пакідае шасціструнная «красуня» месца для іншых заняткаў?**

— Вядома ж! Некалі мне падабалася маляваць, пэўны час хацеў прысвяціць лёс журналістыцы. Пяць гадоў вёў перадачы пра гітарыстаў на радыё. Пішу невялічкія жыццёвыя нарысы, апісваю ўражанні, выношваю кнігу. Я не магу сядзець без справы. Нават у адпачынку, на моры, працую: выратавальнікам, экскурсаводам, бібліятэкарам. Ёсць такі чалавек — Яўген Бялкоў з Кастрамы. Працуе ў цяжкай фізічнай сферы, трубаўкладчыкам. А іграе на гітары шмат і вельмі душэўна. Не горш за многіх прафесіяналаў!

**— У які момант з'явіўся гітарны дуэт «Копакабана»?**

— Першы сумесны з Сяргеем Кабанавым канцэрт адбыўся яшчэ ў 90-я, летам, у Крыме. А потым закруцілася: выступы ў рэстаранах, творчыя вечарыны, гастролі па Прыбалтыцы, Польшчы, Украіне, маленькіх і вялікіх гарадах Беларусі, запіс кампакт-дыскаў... У гэтым годзе адзначаем 25-годдзе сумеснай творчасці. Актыўна выдаём нотныя зборнікі.

**— Калі ж у вас з'явілася цяга да кампазітарскай дзейнасці?**

— П'есы я пачаў пісаць дзеля жарту — раптам атрымаецца. Нават назвы ім даваў камічныя: «Не горш, чым у іншых» або «Дзесьці я гэта ўжо чуў». Як ні дзіўна, яны спадабаліся маім калегам ды вучням — і пайшлі па руках. У мяне ад раздрукоўкі дома прынтар дыміўся! Так што першы аўтарскі зборнік «Мне часам бывае сумна ...», які я замовіў у друкарні, разышоўся імгненна. Гэта вельмі натхніла на далейшую творчасць. Прыемна, што ўдзячныя лісты ад выкладчыкаў і вучняў прыходзяць не толькі з Беларусі, а з розных куткоў свету: ад Францыі да Ісландыі.

**— Над чым працуеце зараз?**

— Ствараю зборнік перакладаў папулярнай музыкі для гітары. Гэта вельмі актуальна — не кожнаму «суровая» класіка па душы. Ды і якая розніца: вучыцца па творах Баха ці Алы Пугачовай? Галоўнае — іграць як мага больш! Мне страшна, што калі-небудзь мая муза знікне. Таму пішу нібы канвеер, не так шмат выступаю, але музычныя вечарыны вяду і, вядома ж, выкладаю гітару.

**— Чым унікальны Клуб гітарыстаў Беларусі?**

— У Клубе займаюцца людзі самых розных прафесій і ўзростаў: ад маладога будаўніка да пажылога лекара. Прыходзяць самі, не з мамай за ручку. Я не ўгаворваю, а гляджу ў вочы і пытаю: «Сапраўды хочаш іграць?» І калі, убачыўшы сумленны адкрыты погляд, чую ўпэўненае «так», то бяру без размоў. Нават тых, каму быццам бы «мядзведзь на вуха наступіў». У клубе праходзіць шмат вечароў гітарнай музыкі — у красавіку адбудзецца адкрыццё вялізнага форуму «Рэнесанс гітары», які стартуе ў Мінску, а прадоўжыцца, па-традыцыі, у Гомелі.

**Марыя ВОЙЦІК**



Уладзімір Сытчанка «Прарыў».

# Моваю Шаўчэнкі

**У 2015 годзе ва ўсім свеце адзначаецца 201 гадавіна з дня нараджэння выдатнага ўкраінскага паэта. У кантэксце ўрачыстых шаўчэнкаўскіх мерапрыемстваў у Амбасадзе Украіны ў Рэспубліцы Беларусь адкрылася выстаўка «Праз Беларусь праходзіў шлях Паэта», якая акцэнтуе ўвагу на малавядомым перыядзе жыцця юнага Тараса, калі ў 1892 годзе ён разам з панам П. Энгельгардам падарожнічаў па Беларусі па дарозе да Вільні.**

Арганізатары і ўдзельнікі экспазіцыі — выпускнікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Яўген Шунейка, Уладзімір Сытчанка, Алесь Фаменка, Марына Эльяшэвіч — рыхтаваліся некалькі гадоў і здолелі ўпершыню ў беларускім мастацтве адлюстраваць цалкам арыгінальную тэматыку. Мастакі звярнуліся да вобразаў бацькоў Тараса Шаўчэнкі — Кацярыны і Рыгора, паказалі шлях пісьменніка праз Беларусь, калі малады пятнаццацігадовы юнак адкрываў для сябе шмат новага і цікавага, што не магло не адбіцца на развіцці яго выключных паэтычных і мастацкіх здольнасцей.

У прадстаўленых творах малады Тарас, магчыма, выглядае і больш дарослым. Праз гэта аўтары імкнуліся падкрэсліць, што паэт і пазней паглыбляўся ва ўспаміны і прыгадваў беларускае падарожжа. На выстаўцы таксама прадстаўлены ілюстрацыі да шаўчэнкаўскага «Кабзара». Жывапіс і графіку дапаўняюць тэкстыльныя і лічбавыя кампазіцыі, літаратурныя творы ўкраінскага пісьменніка.

— З канца 1970-х гадоў у мастацкім асяроддзі сфарміравалася традыцыя святкавання памятных літаратурных дат: юбілеі Алаізы Пашкевіч, Міколы Гусоўскага і інш. У 2013 годзе пры падтрымцы дырэктара Мар'інагорскай мастацкай галерэі Алеся Пpановіча ў зале мастака-партызана Г. Бржазоўскага мы арганізавалі выстаўку да 120-годдзя выхаду першага паэтычнага зборніка Лесі Украінкі «На крылах песень». Маляваныя дываны, графіку і жывапіс з вобразамі пісьменніцы, кахання, лясной казкі пасля падаравалі галерэі, — распавёў арганізатар выстаўкі «Праз Беларусь праходзіў шлях паэта» Яўген Шунейка. — Менавіта ў той час і нарадзілася ідэя арганізацыі літаратурна-мастацкай выстаўкі імя Тараса Шаўчэнкі. Што цікава? Усе памятаюць паэта па яго аўтапартрэтах: сталага, самотнага чалавека. А мы «рэстаўравалі» яго маладыя рысы: чарнявы, з тонкімі рысамі твару і з вялікімі чорнымі вачыма. Гэтая выстаўка падштурхоўвае нас і надалей развіваць як украінскую, так і міжнародную тэматыку ў беларускім мастацтве, быць такімі «мастакамі свету».

Падчас імпрэзы ў зале дыпламатычнай украінскай установы з прывітальнай прамовай і словамі падзякі выступіў саветнік-пасланнік Амбасады Украіны ў Беларусі Валерый Джыгун. Беларуская паэтэса, перакладчыца Таццяна Сівец выказала шчырую радасць з нагоды сяброўства ўкраінскіх і беларускіх творцаў, зачытала паэтычныя радкі Тараса Шаўчэнкі, асабіста перакладзеныя на беларускую мову. Літаратуразнавец, археолаг, пісьменнік Язэп Янушкевіч падараваў Амбасадзе Украіны ў Беларусі асобнік «Партрэты паўстання 1863 — 1865 гг.», які выйшаў на трох мовах: беларускай, украінскай і літоўскай. Урыўкі з паэм Тараса Шаўчэнкі, пераклады ўкраінскіх твораў на беларускую мову прачыталі гасцям выстаўкі студэнты і вучні сярэдніх школ Мінска, а спявак Алесь Валодчанка выканаў песні на словы знакамітага паэта.

Арганізатары і ўдзельнікі выстаўкі «Праз Беларусь праходзіў шлях Паэта» шчыра спадзяюцца, што яна стане добрым прыкладам для далейшага ўмацавання і развіцця ўкраінска-беларускіх культурных сувязей.

**Таццяна ШЫМУК**



Яўген Шунейка «Малады паэт прыгадвае Свіслач».

# Лялечныя людзі



Аляксей Мартынаў «Блазан». 2010 г.




Ірына Казлоўская «Каханне». 2010 г.

**Музей сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі запрашае на выстаўкі Руслана Найдзена «Белае чорнае» і Аляксея Мартынава «Лялька. Мадэль. Вобраз».**

## КАНТРАСТ

Вучэбны праект «Black White» прысвечаны 100-годдзю УНОВИСа — легендарнай школы «Утвердителей Нового Искусства», створанай у 1919 годзе ў Віцебску мастаком Казімірам Малевічам, і ўжо сёння мастакі рыхтуюцца адзначыць эпахальную ў гісторыі сучаснага мастацтва дату. У экспазіцыі прадстаўлены плакаты, створаныя ў 2008 — 2013 гадах студэнтамі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Больш як 50 работ сваіх вучняў выбраў для праекта выкладчык акадэміі, дызайнер і мастак Руслан Найдзен па выніках штогадовага аўтарскага практыкуму «Белае Чорнае. Black White». Да слова, сам Малевіч часта арганізоўваў са студэнтамі сумесныя навучальныя практыкі.

— У гэтым вучэбным праекце па заданні выкладчыка студэнты разважаюць на тэму яднання/раз'яднання супрацьлеглых пачаткаў з дапамогай падвойнага плаката. Аўтарскі курс Р. Найдзена скарачае вучэбны шлях да пазнання светабудовы праз азы прафесіі: адразу знаёміць з паняццямі супрацьлегласці, палярнасці, антытэзы, максімальнага кантрасту ды інш. Звярнуць іх статычную раўнавагу, вынайсці сэнс, адчуць межы творчай волі — сутнасць задання, — адзначыла мастацтвазнаўца Таццяна Бембель.

Экспазіцыя суправаджаецца выданнем каталога прадстаўленых работ і запачаткоўвае цэлую серыю выставак, акцый і выданняў, распланаваных Русланам Найдзенам аж да 100-гадовага юбілею УНОВИСа ў 2019 годзе.

## МАЙСТАР ЛЯЛЕЧНЫХ СПРАЎ

Лялечнік. Слова гучыць амаль як алхімік. Гэтак жа таямніча. Майстар, які стварае ляльку, быццам злучае розныя светы: рэальны, у якім мы бачым прадмет з парцаляны ды тэкстылю, і той, дзе гэты прадмет ажывае. Невыпадкова мастак Аляксей Мартынаў, кажучы пра свой «сумна-меланхалічны народзец», згадвае галактычныя сусветы, даючы самастойнае жыццё кожнай лялечнай істоце, з адметным характарам, манерамі і месцам існавання. І нараджаецца маленькі персанаж не з глабальнай задумы, а з тактыльных і зрокавых адчуванняў майстра, шматкоў тканіны і скуры, бісеру і гузікаў.

**Таццяна ШЫМУК**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Адкрытага акцыянернага таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
г. Мінск, 1-ы Загарадны зав., 3
Індэкс 220073
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2263.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 19.03.2015 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1463 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686